УДК 821.161.3-821
ББК 84(4Беи)
Д13

Рэдагаванне і малюнкі аўтара

**Давідовіч, С. Ф.**
Д13 Збор твораў. Т. 12. Вершы. Паэмы. / Сяргей Давідовіч. — Мінск : Зміцер Колас, 2020.— 416 с., іл.

ISBN 978-985-23-0097-1.

У дванаццаты том збору твораў вядомага паэта і празаіка Сяргея Давідовіча ўвайшлі вершы і паэмы напісаныя ў 2019–2020 гадах.

Творы цікавыя сваёй вобразнасцю і шчырасцю.

**УДК 821.161.3-821**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-23-0097-1**

## Сніцца мне

Сніцца мне утульная драўляная,
Вёсачка далёкая мая.
І вяскоўцаў шчырасць саматканая,
На якой прарос калісьці я.

Сніцца мне, на жаль, ужо нязбыўнае,
Тое ўсё, што сёння толькі ў снах,
Тая чысціня пачуццяў дзіўная,
Нібы мары казачнай узмах.

Сніцца побыт хаткі невыстрэнчаны,
Ціхі гоман лыжак за сталом,
Нізкастольны родны храм бярвенчаты,
Сэрца пад матуліным крылом.

Сніцца тое, што навекі страчана,
Тое, ў чым з маленства вера ў цуд.
Ўзняўшая на крылы мова матчына
І адзіны ў свеце родны кут.

## Жыві

Ні часоў няма, ні меж
Для акрыленага слова.
Я пішу цябе, мой верш,
І прашу адначасова:

Я пакіну родны край,
Дзе нуду і радасць зведаў.
Толькі ты не памірай,
Не знікай за мною следам.

Што ні год, вышэй сваю
Уздымай над светам долю.
Я табе жыццё даю
І наказ: — Ляці на волю!

У табе, як і ўва мне,
Ісціна высокай пробы.
Не заўжды яна ў цане,
Шмат каму недаспадобы.

Ісціна, яна ў крыві,
Ісціна, яна у слове.
Вось чаму, мой верш, жыві
Пільна і напагатове.

## Смуткуе зямля

Звяртаюцца хата да хаты
На мове нямой цішыні,
На мове бязмоўем распятай,
На мове нуды-гарчыні.

А калісь, даўно… Ды не надта,
Гадоў нейкіх сорак адкінь,
Гукалася кожная хата
На мове сваіх гаспадынь.

На мове жывёльных падворкаў,
На мове даёнак, сякер.
О як жа тут ціха і горка
Заезджаму сэрцу цяпер.

І хмурыцца неба і долы,
Балюча смуткуе зямля.
І будучы дзень невясёлы,
Бязгучны брыдзе спакваля.

О вёсачка! Што ж ты знямела?
Дзе мары бацькоў нашых? Дзе?
Хутчэй за мяне састарэла —
І хто маё стылае цела
У вечны нябыт правядзе?

## З першага крока

«Хто́ мы?» — заўсёды у тэме.
Час, як вада праз пясок.
Хто, тое даўняе семя,
З якога і мой каласок?

Плынь старадаўніх паводак
Змыла стагоддзяў сляды.
Быў ён, далёкі мой продак,
«Быў» — для мяне назаўжды.

Быў — і праз тысячагоддзі
«Ёсць» і маё прарасло.
Час  і знішчае, і родзіць,
Плодзіць дабро ён і зло.

Мой каласок і калоссе
Продкаў — рэальнасць ці сны?
Як мне дапяць удалося
Ў сёння з сівой даўніны?

Час той — далёка-далёка,
Там і жыцця першы ўзмах.
З самага першага крока
Распачынаецца шлях.

# Мова

Ты з народзін маіх
Неадступна са мною,
Ты — жыцця гаспадыня,
А я толькі госць.
Ты зямною была для мяне
Й незямною.
Для мяне па жыцці
Ты такою і ёсць.

Ты ўладарыш душой,
Нараджаючы творы,
То уздымеш мяне,
То абрынеш ізноў.
То вядзеш у тупік,
То размежыш прасторы,
То запаліш натхненнем,
То выстудзіш кроў.

Ўсё, што ў сэрцы нашу,
Аддаю без астатку
Я табе
І душы мілагучнай тваёй
Каб валодаць табой,
Неабходна спачатку
Падыйсці да цябе,
Як да веры святой.

Незямной і зямной
Ты была безумоўна,
Для мяне назаўжды
Ты такая і ёсць.

І калі я да іншых
Звяртаюся мovaў,
Для таго, каб падкрэсліць
Тваю прыгажосць.

Твой алтар для мяне —
Твае літары й словы,
Неад’емны мой крыж,
Неад’емны мой лёс.
Я нясу яго свята
І несці гатовы
Да апошняга дня,
Як дагэтуль і нёс.

# Гімн аб'яднаных нацый

Эх, дасягнуць бы
Піку творчай працы,
Не пахне дзе
Эгаістычным культам!
Стварыць бы мне
Гімн аб'яднаных нацый
І потым стаць
За дырыжорскім пультам.

Перада мною —
Шар зямны наш, зала,
І поўны гледачоў —
Ўсё чалавецтва.
І вось пачатак —
Музыка зайграла,
І пачалі знікаць,
Як раны, бедствы.

І пачала душа з душой —
О Божа! —
Нягледзячы
На расу,
Веру,
Сытасць,
Яднацца —
І сышла ў нябыт варожасць,
І атуляла усіх —
Спагада, літасць.

А я, галоўны аб’яднання аўтар,
Аркестрам дзіўным
На ўвесь свет кірую.
Хоць я зусім не профі,
А аматар,
Я з чалавецтва шчырасцю
Шчырую.

О, колькі ў гімне
Розных варыяцый!
О колькі нашых душ
Дагэтуль спала!
І мілагучнасць
Аб’яднаных нацый,
Разрозненых усіх нас,
Аб’яднала.

## Адным днём

Мы, пакуль маладыя,
Шчыруем і мала бядуем.
Ды аб чым бедаваць?
Мы пакуль што пасевы не жнём.
Мы жывём адным днём,
Хоць і планы надоўга будуем,
Хоць сто год пражываем,
А ўсё-ткі жывём адным днём.

Мы жывём з вамі сёння,
А заўтра збіраемся толькі.
Мы жывём адным днём,
А «ўчора» — яно ўжо было.
І гады, што прайшлі —
Нібы тыя далёкія зоркі,
Ад якіх нам «у сёння»,
Ні цёпла, ні ззяе святло…

Як мой брат паміраў,
Ён цішком уздыхнуў развітальна,
І апошнія словы,
На дзіва, без болю былі.
Ці мяне супакойваў.
Ці проста сказаў памінальна:
— Не такое й малое
Пражыў я жыццё на зямлі…

Эх, Кастусь дарагі,
Мы жывём адным днём — унікальна,
Ты жывеш… дажываеш…
У гэ́ту хвіліну, цяпер.

А ў мінулым — нішто,
Успамінаў тваіх віртуальнасць,
А наперадзе… хутка…
Рэальнасць — магілы ашчэр…

Я жыву адным днём,
Што зраблю, тое й зроблена будзе,
Не жыву я «ва ўчора»,
А заўтра ці буду — мо й не.
Я жыву ў гэты дзень —
Ў гэтай радасці, тлуме і гудзе,
А закончыцца дзень —
І жыццё з ім, магчыма, міне.

## З Новым Годам!

Як мне абрыдлі
Думкі-зачухонцы,
Я прайграю ім —
З імі ў барацьбе.
Здаецца мне,
Што пахаваў я сонца
І заблудзіўся ў цемры —
У сабе.

Я бачу —
Сам сабе я перашкода,
І я сабе жадаю
Ў гэты дзень —
Апошні дзень
Мінаючага года,
Каб тут, у сёння,
Мой застаўся цень.

Каб без яго
Я ў новы год пракрочыў
Праз думак
Расцярэблены гушчар.
Каб жыць пачаў —
Ад навагодняй ночы
Да вечнай ночы
Ў сонечнасці мар.

Мне мала засталося
Й мала трэба —
Хачу я
Напярэдадні зімы,

Каб хлеб надзённы быў,
А ўжо да хлеба,
Каб вершаў
Нараджаліся тамы.

Каб танчылі
Ля елкі карагодам
Любоў,
Надзея,
Вера ў лепшы час.
Я шчыра ўсіх віншую
З Новым Годам
І зычу шчасця
Для сябе і вас!

*31.XII.2019*

## Ген

Раздвоенасць душы жыве ўва мне,
Бязгрэшнік і спакуснік падкалодны.
Я з даўніны прыйшоў, я ў даўніне,
Я і сучасны, я і старамодны.

Ва ўсе часы жыве час перамен,
Для свайго часу ён заўсёды новы.
Ўва мне ж не спіць часоў мінулых ген.
Напомніць пра сябе заўжды гатовы.

Які б я не прымерваў капялюш,
Які б я гальштук не чапляў на шыю,
Я чую покліч тых сялянскіх душ,
Жылі стагоддзі да мяне якія.

І пакідаю я сталічны тлум,
І астаўляю свецкую тусоўку,
І ў вёсцы скіну модны свой касцюм,
Абую боты, апрану ватоўку.

І так мне лёгка, так прыемна мне
На ганак выйсці ранкам сінявокім.
І ген душу кране пяшчотна мне,
І нагадае пра мае вытокі.

## Усё, што засталося

Па вёсачцы іду,
Якой амаль не стала,
Па памяці сваёй,
Якая ў сэрцы ёсць.
Па роднае зямлі,
Якая ўзгадавала,
І трапяткой душы
Дала святое штось.

І памятаю я
Жыцця світанак ранні,
Як хлапчучком ішоў
Па гэтай жа зямлі.
Ўсе радасці мае
І ўсіх трагедый раны —
У будучым маім,
Наперадзе былі.

Ідзі, мой хлапчучок,
Насустрач мне, Сяргейка,
Сны раскажы свае,
А я табе свае.
І нашага жыцця
Прачулая жалейка
Бальзам надзей і мар
Нам у душу ўліе.

Ідзеш ты па зямлі,
Па роднай вёсцы босы,
Павер, што гэта лепш
Сучаснасці штыблет.

Спяшацца патрывай
У тлумны свет дарослы,
З галоднага жыцця,
Няхай і ў сыты свет.

Ды што б я ні казаў
Ты будзеш жыць па-свойму,
І правільна, дружок,
Па-свойму ўсё рашы.
І святаў, і нягод,
Вялізную абойму
Па лёсе панясеш
У сэрцы, у душы.

Эх, вёсачка мая,
Усё, што засталося,
Ад тых гадоў і дзён
Шумлівай табалы.
Эх, светлае жыццё,
Ці ты мне падалося —
Ссівеласць, маладосць,
І хлапчучок малы?

## Парк Пісьменнікаў

У «парку пісьменнікаў»,
парку адзіным у свеце,
Тут творчасці дух
і духоўнасці водар жыве,
Збіраецца моладзь
гуляюць дарослыя, дзеці,
У небе блакітным
задумлівы бусел плыве.

Паэты, празаікі,
творцы сучасных рэалій,
Высаджвалі дрэвы,
паказвалі працы узор.
Аддана, натхнёна
і дружна свой парк закладалі,
Нібыта пісалі
свой лепшы, прачулены твор.

І парк атрымаўся
утульны і вельмі удалы.
У ім Багдановічу з Коласам —
наша любоў.
У ім і душа
бессмяротнага Янкі Купалы,
Душа папярэднікаў творчых
мінулых часоў.

Улетку й зімою
сюды запрашаюць алеі,
Падораць гасцінна
сваю прахалоду і цень.

Тут чуюцца вершы
спраўляе жыццё юбілеі,
Тут кожны прыгожы
сваёй непаўторнасцю дзень.

І вольна тут марыцца,
пішацца светла і плённа,
І парк вас прытуліць
у радасці, і у журбе.
«Пісьменнікаў Парк»
прапануе сяброўства штодзённа,
У ім адчуваеш
часціцай Радзімы сябе.

## Іншае знайшоў

Гадзіны дзве ці тры
Пятляю, як «касы».
Дык дзе ж вашы дары,
Гасцінныя лясы?

Бязгрыб'е — не бяда,
Відаць, я не ў пару.
Кабыл вунь чарада,
Ды іх я не бяру.

І мухамор не ў лік,
«Куцця» ў яго свая.
А-а, вось і баравік,
Такі ж стары, як я.

Грыбоў амаль няма,
Хоць «караул!» крычы.
Лісічка вось, кума,
Табе не уцячы.

У лесе й без грыбоў
Даволі розных дзіў.
Я іншае знайшоў —
Падыхаў, пахадзіў.

## Толькі ў сне

Гармонік мой, даўно як сціх,
І ад яго адвыклі рукі.
Ў душы мелодый дзіўных тых
Ўспамінам ажываюць гукі.

Праз тоўшчу год у нашы дні,
Ўліваюцца, валтузяць памяць.
Яны гучаць з далечыні,
І лечаць мне душу, і раняць.

Пасляваенныя гады,
Час рэчаіснасці суровай.
Гармонік ратаваў тады
Ад безвыходнасці жыццёвай.

Бывала, разгарну мяхі,
Узрушу галасы з басамі,
І хоць падцягнуты духі,
А душы падпяваюць самі.

Эх, скінуць бы шэсцьдзесят год,
На танцах сесці б у куточку.
Я б рэзнуў «Полечку» й «Факстрот»
І «Рэчаньку», і вальс, і «Ночку».

Абняцца б з тым мінулым мне,
Убачыць хоць хвілінку б тую…
Ўсё гэта бачу толькі ў сне
І толькі ў сне ўсё тое чую.

## Пясочны гадзіннік

Мы назіраем відавочна
Адклаўшы справы ў бок,
Як у гадзінніку пясочным
Струменіцца пясок.

Трэба прыдумаць так! Цікава!
І гэта вабіць нас.
Але гадзіннік — не забава,
А наш бясцэнны час.

«Жыве» гадзіннік двухбакова,
Яшчэ і зноў яшчэ —
Перавярні — і ён нанова
Пясочна пацячэ.

І час працуе без упынку,
Адсейвае гады.
І кожны год, нібы пясчынка,
Цячэ у нікуды.

Вось так жывём пад вокам Божым
Да фінішу свайго.
Крутнуць жыццё, на жаль, не можам,
Каб зноў пачаць яго.

## «Паралельны свет»

Свет,  поўны казачных падзей,
Надзей і мараў каляровых,
Свет,  поўны родных мне людзей,
Свет, што ні дзень, пачуццяў новых.

Свет, уздымаўшы на крыло
Душу сваім святлом няспынным.
Жыцця пачатак…
Так было…
А сёння? Свет здаецца клінам.

Жыцця пачатак…
Так было…
Канца пачатак — гэта сёння.
Адно зламалася вясло,
Мой човен — лёс паціху тоне.

Усё было.
Усё міне.
Я не апошні і не першы.
Як паратунак для мяне —
Свет, што ст募араю я у вершах.

Ён зразумелы!
Блізкі!
Мой!
Ён для мяне, як човен Ноеў.
Я прыхінаюся душой
Да мной жа створаных герояў.

Ствараю свет з уласных слоў,
З задумкі незвычайнай самай.
У ім магу абняць братоў,
З сястрой сустрэцца,  з татам, мамай.

Ён — абярэг мой, не сакрэт,
Алтар душы адзінакроўны.
І гэты «паралельны свет»,
Цяпер за ўсё і ўся —
Галоўны.

## Мая тэма

Как скуден мой запас
Красноречивых слов,
И мыслей незатейливых бессилие.
Но всё,  что дал мне Бог,
Я посвятить готов,
Чтобы воспеть тебя, деревня милая.

Адно ўжо тое, штó
Народжаны я тут,
Ў тваім прыполе, пад крылом матулiным,
Я сэрцам, я душой,
Урос у гэты цуд,
Я вёсачкай мiнулых год атулены.

Мне могут возразить —
Всех деревень не счесть,
Отмеченных своею самобытностью.
Изюминка своя
В деревне каждой есть,
Граничащая с местной знаменитостью.

О, каб хоць хтосьцi з вас,
Ну хоць бы на паўдня,
Папаў сюды, дзе даў мне Божа вырасцi,
Здзiвiўся б  моцна той —
Якая чысцiня
Людзей, прыроды, чалавечай шчырасцi!

Вы спросите, зачем
Я дал зеленый свет
Двум языкам? Вот здесь непонимание.
На сложный ваш вопрос,
Вполне простой ответ:
Чтоб больше этой теме дать внимания.

Я ў гэту тэму ўклаў
Не раз сваю душу,
Так цёпла тэму не кранаў ніводную.
Мне цяжка не пісаць,
Таму ізноў пішу
Пра маму, пра Радзіму й вёску родную.

# І я

Загрузіўся пад завязку
Я, жыццё, табой.
Лёс, пафарбаваны ў казку,
Толькі ў марах мой.

Я адчуў даўно, не сёння,
Халадок зімы
У рэальнасці ў палоне,
А не ў казцы мы.

Што ні год — жыццё ніцее,
Спадчына мая.
Хто там думкай багацее?
Дурань… з ім і я.

## Сустрэчы – расставанні

А мы й не думалі, дарэчы,
Ў шчаслівы той апошні час,
Што расставанні, не сустрэчы,
Мы ладзілі за разам раз.

Наш час агульны згорбіў плечы,
Сціскаўся да знікнення ён.
І да апошняе сустрэчы
Было ўсё менш і год, і дзён.

Ніводзін з нас не быў гатовы
Расстацца назаўжды — ніхто!
Ў застоллі мы вялі размовы
Пра ўсё на свеце й ні пра што.

І шчасцем поўніліся сэрцы,
Благое адлятала прэч.
Мы — кроў адна, адзінаверцы,
Мы верылі ў працяг сустрэч.

Жыццё, яно, як поле брані,
Непрадказальнае, на жаль,
Сустрэчы — гэта й расставанні,
Нярэдка — і апошні баль.

## А што яшчэ?

А што яшчэ мне засталося?
Ўплятаць у сумныя радкі
Рэха былога шматгалосся,
Бязгучнасць кропель са шчакі.

А што мне засталося болей,
Прыціснутаму ды мяжы?
Маўчаць — і зноў маўчаць ад болю,
А кожнаму радку даць волю
Крычаць распятым на крыжы.

А што мне засталося сёння?
Пісаць!
Пісаць!
А што яшчэ?
Пра плыні крыўд і слёз бяздонне,
Якое праз душу цячэ.

## Фініш

Ва ўсім быць пераможцам — лейтматыў,
Ні пройгрыш (не дай Бог), ні нічыя.
Чым ні займаўся я, што б ні рабіў,
На фінішы быць першым марыў я.

Не ведае амбіцыёзнасць меж,
«Пусціце павалюся» — мала тых.
І кожны з нас на фінішны рубеж
Імкнецца з усіх сіл раней за ўсіх.

Усё жыццё — наперад! На нагах!
Да мэтаў! Да вяршынь! На абардаж!
І раптам разумеем: фініш — жах,
Наперадзе апошні фініш наш.

У шторм маліўся кожны: — З намі Бог!
Я ж разумею — хутка фініш мой.
Хоць хвалі лёсу я адолець змог,
Дзявяты вал накрые з галавой.

## Разуюць вочы

Калі падводжу вынік спраў,
Заўжды разгублена дзіўлюся —
Я менш пасеяў, чым сабраў,
І менш ты лашчыў, чым караў,
Такі загадкавы Ісусе.

Ў канцы — які ж гэта аванс?
Багата — творчай нівы збожжа.
Больш зжаў, чым сеяў — дысбаланс,
За што такая шчодрасць, Божа?

І ўсё ж — я працаваў на знос,
Я не лічыў ні дні, ні ночы.
Заўважыў толькі ты, Хрыстос,
Я адыду — «разуй ім вочы».

## Факультэты

Прыйшоўшы ў свет недасканалы гэты,
Недасканалы сам і непісьменны,
Амаль усе я скончыў факультэты
Свайго жыцця, набыўшы скарб бясцэнны.

Я вывучаў маленства залатое,
Я грыз навуку — спасцігаў юнацтва.
У сталасці заўжды шукаў героя,
З якім ва ўсім я марыў параўнацца.

Давалася ўсё весела, з імпэтам —
Знаёмствы, прэзентацыі, здзяйсненні,
Тварыў з вясенні́м, летнім факультэтам,
Не мала спраў адолена з асеннім.

Жыццё ўсё кліча й кліча: — Калі ласка!
Ды ўсё далей, далей світанак ранні.
Апошні факультэт даецца цяжка,
Ён крэсліць і жыццё, і намаганні.

## Паляўнічы сезон

Сезон паляўнічы адкрыты.
О гэта, уцех адкрыццё!
І будзе штодзённа забіта
Братоў нашых меншых жыццё.

І стрэлы пакоцяцца ліха,
Ад рэхаў аглухне зіма.
І будзе шукаць лось ласіху,
А заяц сяброўку зайчыху,
Й ліса будзе, плачучы ціха,
Гукаць тых, каго ўжо няма.

А потым ад доз алкаголю,
Ля вогнішча здзейсненых мар,
Дадуць паляўнічыя волю
Эмоцыям палкім, як жар.

І смачна (даруй гэта, Божа)
Гучаў над забітымі смех:
— О як той кульнуўся прыгожа!
— А гэты дык пысай у снег!..

Па лесе рог трубіць і кліча
Сабак, незаменных сяброў.
І стыне ад куль паляўнічых
На снезе бязвінная кроў.

## Здзіўленне

Шмат перадумаў я,
Зноў думаю аб гэтым,
І зноў здзіўляцца не перастаю.
Карпілаўка мая
Была мне цэлым светам,
Крынічанькай, з якой я сэрцам п’ю.

У вёсачцы малой,
Ледзь-ледзь адукаванай,
Я спасцігаў прамудрасці жыцця.
Якою сілай быў
Я, Божа, ўзгадаваны,
Бязвыйсця найбяднейшага дзіця?

З любоўю помню я
Маленства-залацінку
Я сэрцам там,
У думках сёння з ім.
Так дзівіцца ўвесь свет
На кволую травінку,
Прабіўшую асфальт жыццём сваім.

## Уладальнік скарбаў

Зямляне мы, ў нас пад нагамі глеба,
Мы — ад зямлі спрадвек, яе мы дзеці.
Чаму ж нас так чаруе зорнасць неба?
Ці ж мала цудаў на сваёй планеце?

Хто нас ці што нас вабіць — невядома,
Няўжо ён ёсць, касмічны ген так званы?
І я, свае гады пакінуў дома,
Нырнуў у ноч, стаю зачараваны.

Забыўшыся аб марах і аб мэтах,
Здаецца мне пад казачнасцю зорнай:
Смяротны я — ўладальнік скарбаў гэтых,
Бязмежных, бессмяротных, непаўторных.

## Вася

Як супярэчыць Бог —
Ён ажывіў твой лёс.
Тады,
Калі жыццё з цябе збягала.
Душою ты ўскрыяў,
І ты у шчасці рос,
І ты ажыў,
Пражыўшы вельмі мала.

Чамусьці ад цябе
Бог адвярнуўся ў бок,
Хаця душа твая —
Чысцей самоты.
Ты — сонейка душы —
Пражыў адзін гадок,
Ўсяго гадок
Сардэчнасці, пяшчоты.

І вось ты — у зямлі.
Дарую табе, Бог,
А калі шчыра мовіць —
Не дарую.
Ён крылцы разгарнуў,
Ён жыць і жыць бы мог…
Ён ува мне жыве —
Я сэрцам чую.

Хоць ты над намі, Бог,
Васі́лькі выстыў след,
А ён жыццё
Сабою упрыгожваў.

Такой душы няма
На ўвесь твой Божы свет —
Ці ты аслеп?
Аглух?
Ці абязбожыў?

Вядома мне, на жаль,
Па кім жалобны звон,
Ён дорыць Васількý
Жалобу тую.
Чым больш у свеце іх,
Пакрыўджаных, як ён,
Тым меней, Бог,
Цябе ў сабе я чую.

*4 жніўня 2019 г.*
*Загінуў Васілёк*

## Не і не!

Нам бы жыць усё ды жыць —
Дні, гады, вакол шмалюддзе…
Немагчыма уявіць,
Што й без нас усё так будзе.

Што адшчодрыцца вясна,
А за ёй надыдзе лета.
Але ўжо не будзе нас,
Не убачым усё гэта.

Што ні дзень, і што ні год,
Як дарунак Бога слынны,
Будзе сонейка усход,
Будзе вечар салаўіны.

І наш час жніва міне
І збяруць другія збожжа.
Так не хочам. Не і не!
Не выкрэслівай нас, Божа!

## Свая луста

*Друг другу мы тайно враждебны,*
*Завистливы, глухи, чужды…*
А. Блок

Мы бачымся не так ужо і густа,
Калегі? Так. Па сутнасці — сям’я.
Ў кожнага адрэзаная луста
Ад пірага агульнага — свая.

Праз час сустрэча — рэдкая удача.
Калега слоўмі холадна пячэ,
Ўсклікне: — Як даўно цябе не бачыў!
А ў поглядзе: — Дык ты жывы яшчэ…

А ў думках цешыцца: «Я лусту ма́ю
Пабольш тваёй, пабольш усіх — ага!»
І ўпотай ад сваіх калег жадае
З агульнага урваць бы пірага.

Варожасць тайная? Не,  гэта ўжо занадта.
Чужыя мы? Не. Божа барані.
А зайздрасць, як быльнёг, расла выдатна
Ва ўсе часы, на жаль, і ў нашы дні.

У творчую, адну мы селі лодку,
А грэбаем, у розныя бакі.
Нятворчы дух у творчым асяродку,
Як той туман, у ім мы — слепакі.

## Кропка невяртання

Цывілізацыі, да нас былі якія,
Напэўна клалі «быць-не быць» на шалі.
І знесла іх ў нябыт «не быць» стыхія.
Якую замест «быць» яны абралі.

Яны, так, як і мы, ішлі з пячоры
Да самых скрытых тайнаў навуковых.
Былі свае ў іх радасці і горы,
Была ў іх прага да адкрыццяў новых.

І ўсё ж не размінуліся з бядою,
Трагічна памыліліся ў дадатак —
Стварылі раптам атамную зброю,
І гэта быў для іх канца пачатак.

Іх, пэўна, знішчыў атам гэты кляты,
Антаганізм палітыка-ідэйны.
А ў іх былі тады свае Сакраты,
Свае да-Вінчы і свае Эйнштэйны.

Быў Байран свой і Пушкін, і Купала
Быў Мендзялееў свой і Магамаеў,
І дзеячоў духоўнасці не мала,
І быў свой Македонскі і Чапаеў.

Й амбіцыі касмічныя таксама,
І цяга у глыбіні акіяна.
Былі, напэўна, й велічныя Храмы,
Служылі Богу ў іх самааддана.

Ўсё тое, што мы маем, а, магчыма,
Мы — рэха іх, мы ўсе — адно насенне.
Не можа чалавецтва без экстрыма,
Які прыводзіць да самазнішчэння.

Няўжо для ўсіх, усіх цывілізацый
Жыццё — на час, пустая акалічнасць,
І Бог, на жаль, заняты марнай працай,
Стварaючы часовасць і цыклічнасць?

Няўжо пачатак цыклу — час для ўзлёту,
Яго канец — з палётам развітанне?
І кожная з цывілізацый потым
Сваю праходзіць кропку невяртання.

Ці ж для таго з нуля стваралі кроўна
Праз намаганні свет свой пакаленні,
Каб скарб матэрыяльны і духоўны
Канцом зрабіўся цыклу ў імгненне?

## Сярод катоў Эзоп

Мой кот… Разумны кот… Які высокі лоб!
Цеш нас, сябе, крычы вясной, дурэй.
Сколь розуму ў вачах — сярод катоў Эзоп,
Той, кажуць, мудры быў,
А ты яшчэ мудрэй.

Я слухаю цябе...
Эх, каб сказаць ты мог,
Хто плакаў бы, хто ўголас заіржаў.
Не выключаю, што
І пабаяўся Бог,
Што ты пад хвост запхнеш
Кіраўнікоў дзяржаў.

Маўчыш? Ну што ж, маўчы.
Я памаўчу ў адказ
Маўчанне — гэта мова моў, лічу.
Маўчанне тое, што і аб'яднала нас,
Я шмат сказаць бы мог,
Ды лепей памаўчу.

## Машына часу

Мне б у падушку з галавой накрыцца,
Яна — цяпер мая машына часу,
Яна мяне і ўсё,  што ноччу сніцца,
Нясе да родных, дзе жыцця крыніца,
Да неўміручага іканастасу.

Я ўсіх іх бачу, галасы іх чую,
Хачу ў спатканне ўсю душу укласці.
Трапляючы у сне у казку тую,
Днём разумею,  што такое шчасце.

Яно было — і ўжо не будзе спасу
Ад думкі, што не вернецца ніколі.
Надыдзе ноч — і зноў машына часу
Імчыць мяне да родных, шчасця, болю.

## Прыму!

Не таму іду з жыцця пануры,
Што без біркі творчы мой партрэт —
Не заслужаны дзеяч культуры,
Ні мастак народны, ні паэт.

Не! Па званнях тых душа не ўзные,
Хоць на званні, што ні год — няўрод,
Бо дае ці не нам званні тыя
Усяго чыноўнік — не народ.

І жыццё, і творчую ўсю працу
Прысвяціў я толькі аднаму —
Быць з народам, чалавекам звацца,
Гэта званне з радасцю прыму.

## Складаны чалавек

Сказаў — адрэзаў,
Напісаў — адсек,
І чорнае не называю белым.
Для многіх я — складаны чалавек,
Для «нескладаных» я — незразумелы.

І што рабіць?
Сам па сабе  жыву,
Душы каноны — для душы законы.
Жыву і не схіляю галаву
Пад ціскам штучна створанай іконы.

Мой верш вышэй за ўсіх гаспадароў,
Якім паўсюдна марыцца быць першым.
Ці не таму так мала ёсць сяброў,
Якія стануць побач з гэтым вершам?

## Абразок

Нашу я ў сэрцы абразок
Святы — сваёй матулі
Вярнуцца мне б хаця разок
Ў дні, што даўно мінулі.

І папрасіць бы у яе
Святое прабачэнне —
Даруй памылкі ўсе мае,
Дай мне ад іх збавенне.

Я заплачу цаной любой,
Жыццём, здароўем, воляй
Я вінаваты прад табой —
Любіў цябе…
Мог болей.

Я грэўся ад вачэй тваіх,
Ўдыхаў любоў жывую.
Табе ж я не сказаў услых,
Як сам цябе люблю я.

Запознены наш самасуд —
Нярэдка й сёння драма.
Любоў матуль — вялікі цуд,
А наша ім?
Таксама.

Не далюбілі калісь мы,
Хаця любілі шчыра.
І вось гняце нас боль нямы
Хоць маці нашы ў свет зімы
І адляцелі ў вырай.

Так, я рабіў усё, што мог,
А ўсё, здаецца, мала.
Я, мама, вобраз твой збярог
Жывым у сэрцы — бачыць Бог,
Калі цябе не стала…

Нашу я ў сэрцы абразок
Сваёй матулі свята.
І чую раптам:
— Ты, сынок,
Ні ў чым не вінаваты.

*27 студзеня 2020 г.*
*34 гады як не стала мамы*

## Няўжо толькі кан’як?

Я расцвярэзнік быў,  цяпер паціху п’ю,
Кахаў адну, цяпер хачу «налева».
Прайдошныя гады, вы нерушасць маю
Збасячылі наскрозь, як шашаль дрэва.

Трагедыя жыцця — раблюся як і ўсе,
Замест мазгоў, агульная ідэя.
І хоць мільёны сонц на ранішняй расе,
Іх шмат, але ніводнае не грэе.

Ад вуліц, ад жыцця, уратавацца як?
Няўжо да пекла толькі крок ад рая?
Падобна, што ў жыцці адзін толькі кан’як
З гадамі моц і якасць набірае.

## Запазычанасць

Як шмат людзя́м даў Бог —
Зямлю-планету.
На ёй, на густ любы,
Пары чатыры года.
Зіму і восень,
І вясну, і лета,
Яны — адным экстрым,
Камусьці — асалода.

Якая прыгажосць!
І ўсё для нас — прыміце!
Бярыце!
Карыстайцеся навечна!
Не будзьце толькі,
Як быльнёг у жыце,
Жывіце,
Але не бесчалавечна.

І так зрабіў
Наш чалавечы род,
Як Бог хацеў,
Ды ўсё наадварот.

Крыніцы,
Краскі,
Зёлкі,
Матылькі —
Усё, з нашай нялёгкае рукі,
Прыроды першароднасць,
Як на ліха,
Усё ідзе назвод —
І не паціху.

І кожны новы
На зямлі нашчадак,
Па-новаму
Знішчае ўсё ў дадатак
Штогод расце
Радыяцыйны фон
І ставіцца само жыццё
На кон.

Мы маем
Запазычанасць па вушы
Перад жыццём, прад Госпадам,
На жаль —
Узаемна мы знішчаем
Нашы душы,
Самасвядомасць знішчылі амаль.

## Заспакойвае адно

Усе мы пішам аб адным і тым,
У штампаў і канонаў мы ў няволі —
Аб сумным, смешным, грэшным і святым,
Ды ўсё-ткі пішам пра сябе найболей.

Частуемся духоўным пакрысе,
Пісаць глыбей, хоць хочацца, не можам,
Бо смешныя і грэшныя мы ўсе,
Таму й не прарастаем зернем Божым.

Што ж, хто мы ёсць, вядома нам даўно,
Яшчэ далёка да мяжы фінальнай.
І ўсё ж нас заспакойвае адно,
Што кожны з нас, над кожным, геніяльны.

## «Кар’ерыст»

Ў кар’еры, на БелАЗе я,
Уверх — уніз, прывычна.
І гэта не фантазія,
А факт біяграфічны.

Ў кар’еры за БелАЗамі
Цягнуўся дым нязменна.
Я выхлапнымі газамі
Надыхваўся за змену.

Губляў неспадзявана я
Кар’ерныя маршруты,
Бо чаша катлаванная,
Як возера атруты.

Ён меў крутых дарог сюрпрыз,
Круты кар’ер бяздонны.
Імгненна мог кульнуцца ўніз
БелАз саракатонны.

Аднойчы мог і я «нырнуць»,
Ды спахапіўся жыва —
Цягнула за рулём заснуць,
Начамі асабліва.

Начная змена — час бяды,
Ў напрузе нас трымала.
Куляўся хтосьці, і тады
Усякае бывала.

Што ж, быў я «кар’ерыстам»… Вось…
Дзень-ноч. Ноч-дзень. Запарка.
Ў дадатак, я прапах наскрозь
Мазутам і саляркай…

Я сёння зазірну туды,
Ў мінулы час вірлівы.
Туды, дзе быў я малады,
Больш бедны, ды шчаслівы.

Я не лайдачыў на зямлі,
Ішоў праз час да мэты.
І ў працы крылы набылі
Мае «ўніверсітэты».

# Зляціце з неба

Зляціце з неба на зямлю, анёлы,
Там сонца шмат,
Тут змроку значна болей.
Там атуляе вас блакіт вясёлы,
Тут вельмі шмат атуленых нядоляй.

У вышыні, ў бязмежнасці нябеснай,
Гармонія палёту і прасторы.
Тут ад амбіцый палітычных цесна,
Тут эгаізм, з драпежнасцю сумесна,
Выключнасць тчэ сваю на нечым горы.

Свет патанае сёння ў раўнадушшы,
Забыўшыся, што ўсе мы сонца дзеці.
Анёлы, асвятліце нашы душы —
О як жа страшна жыць у змрочным свеце.

## «Калгас»

Мы прагнем ранак адгарнуць,
Нібыта новую старонку,
І ў будучыню зазірнуць,
Імчаць за часам наўздагонку.

Каб толькі не праспаць чаго,
Не размінуцца, не спазніцца,
Не бразнуцца з жыцця свайго,
Якое, быццам бліскавіца.

Як вы падобны, сонца ўсход,
Дзень, вечар, на жыцця прастору.
Як хутка кожны дзень і год
Ад нас спяшаюцца ва ўчора.

І мы аднойчы станем ім.
Хоць круцім, круцім дзён педалі,
Як продкі ў часе маладым
Імкнуліся — наўздым, наўздым,
Уперад — і мінулым сталі.

О, гэты жах — мінулы час,
Здаецца. з ім мы не хаўрусім,
Мы ж у сучасным. Усё-ткі нас
Ён забярэ у свой «калгас»,
І мы у ім застацца мусім.

## Адно мне...

О як я не зайздрошчу таўстасумам,
На залаты прысеўшым унітаз,
Тусовачным, карпаратыўным тлумам
Узнесеным на хліпкі свой Парнас.

Яны жывуць, але жыцця не бачаць,
«Царуюць», ды ў бяздушшы царства іх.
Іх вычвурным, шматпавярхоўным дачам
Далёка да заможнасцей маіх.

Мне так утульна ў хатцы нізкастольнай,
Дзе нос казыча печы курадым,
Дзе сняцца казкі, дыхаецца вольна,
Дзе мару з успамінамі ў абдым.

На ганак выйду — тут каток прыблудны,
Ён ласунка́ чакае на двары
А ў хаце, за спіной маёй — «шматлюдна»,
Прытуленых бяздомнікаў — аж тры.

Ўжо прыжыліся — Плюшка, Пуфік, Вася,
Не мала дзён са мною і начэй.
Чатыры будуць у маім «калгасе»,
Не праганяць жа гэтага з вачэй.

А вунь жа, верабейчыкаў сямейка.
Сямейка? Іх тут больш за пяцьдзясят.
А воддаль вунь, сарока, як зладзейка,
Здаля цікуе, прыляцела ў сад.

Прадзім’е… Ўсім ім хочацца паесці,
Ужо і дождж занудзісты імжыць.
Ды і зіма не за гарамі — дзесьці,
Без дапамогі як бяздомным жыць?

Ды горш за ўсё сабакам-небаракам,
Прагнаным з хат і прадзімовых дач.
Скарынка хлеба будзе ім прысмакам —
Такі вось боль душы вакол, хоць плач.

Іх ад сябе не адпіхнуў ні разу,
Мне іх карміць прыемна, бачыць, чуць.
Яны са мной шкадуюць, пэўна, разам,
Што раз на месяц пенсію даюць.

Дзялюся з імі я, мяне не ўбудзе,
Адно мне — каб усе яны жылі…
Ці ведаюць багаценькія людзі,
Што столькі ёсць гаротных на зямлі?

Ці ўспомнілі хоць раз аб іх, нябогах,
Наеўшыся ад пуза за сталом?
О як жыццё іх абдзяліла многіх,
Не, не грашамі, а душы цяплом.

## Самае святое

Блаславі, Гасподзь, паэта —
Ўсе б імгненні — у натхненні.
Вершам — восень,
Вершам — лета,
Вершам — дзіўны час вясенні.

А зіма?
Над ёю тое,
Што вясной, улетку, ўвосень,
Ўзнікла, назаўжды жывое,
Вершы — самае святое.

# Фінішны спурт

Ля фініша жыцця  
Я перайшоў на спурт —  
Не здзейсніў шмат, паспець бы,  
Не згубіць напрамак.  
Але я выглядаў між сонных, як абсурд,  
Як белая на чорным фоне пляма.

Я й сам сябе лаўлю на думцы: «Супыні  
Душы імклівай лёт —  
Гады жыцця, як гіры.  
За часам не паспець на стомленым кані,  
А ў сутках усяго гадзін дваццаць чатыры».

Я сам сабе суддзя.  
Я сам сабе — узор,  
Бязлітасна сваю знямогу дакараю.  
Дзень без радка, страфы —  
Лічыце, я памёр,  
І нават, калі не —  
То цьмяна дагараю.

## Круглы стол

У час сучасны, як і ў час былы
І людзі, і дзяржавы ў свеце цэлым,
З надзеяй ладзяць круглыя сталы,
Каб быць пачутым,
Быць больш зразумелым..

Для перамоў ён самы неблагі
Стол круглы, ад благіх намераў чысты.
Усё-ткі і з яго тырчаць рагі,
Калі за ім сядзяць антаганісты.

## Еднасць душ

*Да выступлення на рэспубліканскім*
*святе паэзіі, у г. Маладзечна*

Я ў палоне мары быў адвечнай,
Мары патаемнай увесь час:
Эх, папасці б мне ў Маладзечна
І звярнуцца ад душы да вас.

Дні лічыў я, кожнае імгненне,
Верыла у цуд душа мая.
Бог пачуў — і я стаю на сцэне,
Вочы ў вочы, толькі вы і я.

Еднасць душ — галоўнае багацце
У жыцці — вядома нам даўно.
Як я рады быць на гэтым святе,
Разам услаўляць Радзіму-маці,
Быць духоўна з вамі заадно.

*2019*

## Спускайцеся сюды

Я тут, унізе, ля падэшв Парнасу,
Я ледзьве бачны тут,
Тым больш, адтуль.
Для нашага, душой сляпога часу,
Я нават для яго — звычайнасць, нуль.

Вунь, колькі тых,
Хто сёння вершы піша,
Хто з рыфмаў для сябе будуе трон.
А я збіраўся пакарыць узвышша —
Парнас, што нават сонца слепіць ён,
Дзе геніяльных не злічыць імён.

Хоць на Парнас я марыў падзівіцца,
Ды ад яго скіроўваю сляды.
Парнас мой тут, у вёсачцы-сястрыцы,
Хто хоча, лепш спускайцеся сюды.

## Не знайду

Хто не шукае, той не блудзе,
Я ж заблудзіўся, як у сне.
Блукаю паміж вамі, людзі,
Я вас не бачу, вы — мяне.

Радню, сяброў, сустрэчы, святы,
Жывых пачуццяў чараду,
Усё згубіў, чым быў багаты,
І ўжо ніколі не знайду.

Туляюся нябачным ценем,
Балючых думак повен рот.
Жыву не днём — адным імгненнем,
Якое цягнецца, як год.

## Слаўлю жыццё!

Слаўлю жыццё,
Хоць я сам і бясслаўны,
Так, як бы славіў няўрод жыта жнец,
Так, як бы славіў пінжак безрукаўны,
Бо не хапіла тканіны — сам швец.

Слаўлю жыццё,
Хоць і мне не хапала
Хлеба, адзення, абутку — ўсяго.
Хоць дасталося пакутаў не мала,
Хоць хтосьці здзекваўся з лёсу майго.

Слаўлю жыццё —
Па душы хрысцьяніна,
Дробязі-крыўды адсоўваю ў кут.
Наша жыццё — гэта Бога даніна,
Непараўнальны, намолены цуд.

Слаўлю жыццё!

## Чацвераногія сябры

Падзяка вам, што вы былі са мной,
Сябрамі, ўпрыгажэннем майго лёсу.
Цяпер няўмольны час між нас сцяной
І боль душы няспынны, безгалосы.

Усё прыходзіць да сваёй пары,
І вы прыйшлі і адыйшлі, нябогі,
Мае чацвернаногія сябры,
Далёка ім да вас, сябрам двухногім.

Вас не псаваў ні хуткаплынны час,
Ні зайздрасць чалавечая сляпая.
Адданасці вучыўся я у вас
І шчырасці, якой нам не хапае.

## Два колеры

Эх белая пара!
Чароўная зіма!
Прыбраўся лес прыціхлы, заінелы.
Здаецца, быццам іншых колераў няма —
І толькі два святкуюць — чорны й белы.

Ці сонейка святло над зімкаю без хмар,
Ці завіруха загудзе нястомна,
І хоць зімой «наскрозь» забелены абшар.
А у вачах ад іх бывае цёмна.

І вось настала ноч,
Прагнала дзённы тлум,
Час надыйшоў загадкава-знямелы.
А ціхі снегапад. нібыта ціхі сум,
Вось толькі сум душы, на жаль, не белы.

## Ад калыскі да...

Ад калыскі да «драўлянага адзення»
Шмат ці мала?
Усяго жыццё-імгненне,
У якім нам жыць пашчасціла аднойчы,
Перад тым, як стаць часцінкай вечнай ночы.

Ад калыскі да «драўлянага убора»,
Сёння й заўтра наша хутка стане «ўчора»,
Сёння, заўтра і учора — Святы Ойча,
Мы адно жыццё жывём, нібыта тройчы.

Як складана скласці іх у цыкл адзіны,
Непаўторнага жыцця тры палавіны.
Варта хоць адной не ўдасца ў нашым лёсе,
Падсумоўваем — жыццё не удалося.

Ад калыскі да драўлянае «калыскі»,
Шлях жыццёвы і упэўнены, і слізкі,
Небяспечны шлях, цікавы і складаны —
Эх, яшчэ б прайсці па ім… асэнсавана.

## Душой малады

Я жыў уахвоту, да сёмага поту,
Ды так, што з-пад ног курэў дым.
Хоць дрэва надзеі губляе лістоту,
Не страшна душой маладым.

Эх, ёлкі зялёныя! Вецер у грудзі!
Едрыт ваша дышла, гады!
Мяне на калені? Такога не будзе!
Я й сёння душой малады.

Я й сёння не веру ў сляпую удачу,
А толькі ў сябе, як заўжды.
Ды сэнсу вялікага ў гэтым не бачу,
Бо хутка апошнюю дату адзначу,
Хоць я і душой малады.

# Не толькі вачыма

У лёсе маім адгалоскі былога
І геннасці вашай, бацькі і дзяды,
І штосьці ад часу, і нешта ад Бога,
Ад святаў агульных,
Агульнай бяды.

І я ад сучаснасці ў многім залежны,
Ад свету ўсяго мне не дзецца нідзе.
Штодзённа свет стогне ад смерці драпежнай
І рэха бяды ў маім сэрцы гудзе.

Шмат сэрцам я бачу, не толькі вачыма,
Не сцежкай шыбую, а па бальшаку.
Жыццё зразумець і адчуць немагчыма,
Штодня жывучы ад жыцця у баку.

# Шруб

Прадзім'я холад адчуваю на спіне.
Жыццё — на ім жа ўшчэнт падсечаным суку.
Ніхто мне ў вочы з цеплынёй не зазірне
І не працягне ратавальную руку.

Я толькі ў снах сваіх —
Дзяцюк, юнак, дзіця,
Вышэй жыцця магу узняцца на крыло.
Прачнуся — і адразу прывіднасць жыцця
Халодным ценем наплывае на святло.

Трава — не тое, што над ёй магутны дуб,
Але ж праз час і дуб ляжыць вунь на траве.
Жыццё — складаны механізм,
А я ў ім — шруб,
Ды механізм, лічы, аджыў, а шруб жыве.

## Сорак дзён

Як не стала цябе, родны наш —
сорак дзён,
Сорак дзён у самоце, жалобе, журбе.
Ах, туманнасць мінулага,
прывіднасць, сон,
Ні спаткацца з табой,
Ні пакратаць цябе.

Сорак дзён, як між намі паўстала сцяна,
Як з бясхмарнасці лёсу твайго
грымнуў гром.
Што ж ты, Бог, утварыў,
лепей знікла б яна,
А не той, хто ледзь толькі спаткаўся з жыццём.

У душы, у жыцці, у мазгах — кавардак,
Ды раптоўнай бяды з-завугольны ашчэр.
Застаецца адно —
сціснуць сэрца ў камяк —
На каго спадзявацца?
Хоць вер хоць не вер.

*13.IX.2019*

## Адзнакі

Не ведаю —  і цяжка ад таго,
(А раптам хвост адкіну зпераляку)
Якую час, пасля жыцця майго,
Паставіць мітусні маёй адзнаку?

Паставіць «добра» — будзе самы раз,
А «блага» — не баюся і благога.
Сказаўшы «блага», нехлуслівы час
Мяне заўважыць ўсё-ткі хоць такога.

І гэтым час не сапсуе мне «сон»,
Зусім другое будзе пакараннем:
Калі нічога не заўважыць ён —
І ні мяне, ні творчых намаганняў.

## Рэдкі госць

Была вясна, было святло,
Было шмат тлуму ў маладосці.
А шчасце… Шчасце ці было?
Яно, як прывіднае штосьці.

Сярод падзей мільгалі дні —
Уздым душы. ўзмацненне духу,
Надзей агні ў далечыні
І ўперад арытмія руху.

То ў тлуме радасць мільгане,
То дзень сустрэнецца з удачай,
А шчасце гэта альбо не,
Ці нешта, што завуць іначай?

Надзея сёння — рэдкі госць.
І духу, й радасці упадак.
А шчасце ўвогуле, ці ёсць?
Губляюся сярод загадак.

## Помнікі

Я ні малым і ні старым
Не труціў сваё жы́ццё —
Ніколі не зайздросціў тым,
Хто ў бронзе ці граніце.

Здаецца, што для іх, як здзек,
Стаяць «з вадой у роце».
Стаяць вось так вось з веку ў век
У бронзавай самоце.

І побач я іду калі,
Іх заклікаю ў голас:
— Хадзем па роднай вам зямлі,
Купала, Пушкін, Колас…

Каб быў, напрыклад, помнік мой,
Я б з п’едэстала рушыў —
Мой помнік у душы маёй
Сямейны — дзевяць душаў.

Душа — ні камень, ні метал,
Яна мацней, без зносу.
У ёй для ўсіх нас п’едэстал
З уласных нашых лёсаў.

## Слова

Абрыне, уздыме нанова,
Народзіць пачуцці і згасіць,
Накрые тугой і ашчасціць —
Такая вось сіла у Слова.

Узнесены Словам і я быў,
Абрынуты ім шматразова.
У Слове — і Бог,
Ў ім — і д’ябал,
Свет цэлы нясе ў сабе Слова.

## Блазнючок

Я блазнючком зайздросціў юнакам,
Я іх гады ўспрымаў, нібыта святы —
Калі ж, нарэшце, падрасту я сам
І ўвагу звернуць на мяне дзяўчаты?

І сталасці не менш зайздросціў я,
Трымаў узор дарослых на прыкмеце —
Ці ж будзе і ў мяне свая сям'я,
Свой дом уласны, ў доме — жонка, дзеці?

Грэў сэрца светлых заздрасцяў Гальфстрым,
Ў сабе хацеў я мужнасць мець, адвагу.
Зайздросціў я употай і старым
За ўсебаковую да іх павагу.

Я бедаваў — калі ўжо ён міне,
Перыяд блазнюковы нецікавы?
Ці ж можа пазайздросціць хтосьці мне,
Бо за сталом жыцця — мне крайчык лавы.

І вось даўно ў мінулым маладосць,
Яна і сталасць адгулі «агулам».
Я састарэў, я ўжо часовы госць,
Усё, што меў, блукае ў мінулым.

Цяпер адно — зрабіць апошні крок,
Зрабіць і зазірнуць у вочы Богу.
Як я табе зайздрошчу, блазнючок,
Бо ты распачынаў жыцця дарогу.

## Каму я трэба?

Уссела старасць на мае гады,
Як той каршун галодны на ахвяру.
А я душой і ў думках малады,
Свайму жыццю магу падсыпаць жару.

Дарэмна дзьмеш, неўтаймаваны час,
Хоць гнеш, але не зломіш лёсу дрэва.
А тых пакуль не спішаш у запас,
Хто здольны выпіць і скакнуць «налева».

Таму і крыл няма ў мяне з плячэй,
Якія б узнялі мяне на неба.
Бязгрэшных Бог бярэ з жыцця хутчэй,
А грэшны я, каму такі я трэба?

## На целе скула

Чарнобыль — гэта факт, не чутка,
І небяспечна ад таго,
Бо Беларусь яшчэ не хутка
Ачысціць лёс свой ад яго.

І як не мацюгнуцца матам,
Прабач мне, літасцівы Бог —
Зноў прыпіхнулі мірны атам,
Цяпер на самы наш парог.

І сэрца новы страх адчула,
Хоць і стары у ім жыве,
Бо калі ёсць на целе скула,
Яна праз нейкі час нарве.

## І мне...

Жыццё незваротным міражыць —
Ці быль, ці мана?
Хоць хутка ў труну забадзяжу,
Душа бессмяротная, кажуць,
Ну хоць бы яна!

Я знікну, як кропелька ў моры,
Час хутка праб'е.
А ёсць жа і лёсы-узоры,
І ёсць бессмяротныя творы,
На жаль, не мае.

Эх вы, ноч-апоўначы хмары,
Няўжо дзень міне?
Мы ў выніку — людзі-ахвяры,
Ды кожнаму дадзены мары,
Аб светлым, аб вечным —
І мне.

# Быў і буду

Не стаўлю кропку, лепей коску,
За коскай слоў працяг.
Зноў я ў сваю прыехаў вёску,
Тут чысціні абсяг.

Жыццю я ўдзячны — з цудаў цуду,
Табе, мой родны кут.
Калі ўжо кропку ставіць буду,
Дык лепей толькі тут.

Табе я быў і буду сынам,
Лагойскі край — мой лёс.
Я застануся рэхам слынным,
Я буду плачам жураўліным
Гукаць вас з-пад нябёс.

І зразумееш ты, магчыма,
Маю душу, чытач,
Штó я пакінуў за плячыма,
Адкуль у вершах плач.

# Першае каханне

Сэрца адгукнулася, адчула,
Выпіўшы руплівыя гады —
О паэзія — мая матуля!
Строгая і шчырая заўжды.

Сэрцу немагчыма наталіцца
Творчым словам, колькі ні жыві —
О паэзія — мая сястрыца
Па душы, па духу, па крыві!

Дорыш ты узнёсласць, хваляванне,
Горкае й салодкае яно.
О паэзія — маё каханне,
Першае, на ўсё жыццё адно!

## Жывая рана

Мне б расстацца з ліпкім сумам
Хоць на міг,
Збегчы б ад жыцця, ад тлуму,
Ад інтрыг.

Ад няшчырасці салодкай
Ў кожным дне,
Ад пастыласці сіроцкай,
Што ўва мне.

П’ю штодзённа ад адчаю
Боль-нуду.
Што гукаю, што шукаю,
Не знайду.

Не душа — жывая рана,
Слёз імжа.
Жыць мне з ёй наканавана
Да… крыжа.

## А хто мы ўсе?

Нас час уздыблены нясе,
То скуліць, то уздыме.
А хто тут я, а хто мы ўсе
У гэтай блытаніне?

Я тых, хто з краю, не міну,
Нягоднаму б на покуць
Ён локцем ткне пад рабрыну,
Хто перад ім — пад локаць.

Адно мы — творчая сям'я,
Час знуліць нас ці ўздыме.
Ды не удзельнічаю я
У гэтай штурханіне.

## Быццам прывід

Не вабяць болей далі,
Прыцішваю хаду.
Халодзяць думак хвалі —
Што там, каго знайду?

Што там, каго спаткаю?
Нашто блукаць дарма?
Што меў — таго не маю,
Хто быў — таго няма.

Тут з болем боль сумесна —
Насустрач, не міне.
Дзе ні зірну, тут цесна
Ад успамінаў мне.

Тут думкі-самасейкі
Палоняць спакваля.
Я, быццам прывід нейкі,
Прыйшоў сюды здаля.

## Жыцця застолле

Сустракай, жыццё, гасцінна,
Выстаўляй усё, што ёсць.
Час застолля хуткаплынны,
Я на ім часовы госць.

Смутак, радасць — шматгалоссе,
Сонечнасць, смуга начэй.
Ах, як соладка пілося,
Што ні год — усё гарчэй.

Эх, застолле — бліскавіца,
Сэрцу горка ад таго.
Весела за стол садзіцца,
Сумна пакідаць яго.

# Апошні блін

Надыдзе дзень —
Завершу мітусню,
І перастану на зямлі міражыць.
Я выйду —
Ціха дзверы зачыню,
І мала хто пачуе і заўважыць.

Так адыходзім мы —
Не я адзін,
Дарога ў нікуды для ўсіх прамая.
У нас ва ўсіх —
Такі «апошні блін»,
Ён камяком жыццё перакрывае.

## Ау-у!

Прасуюць грыбнікі лясы,
Пад мох з нажамі лезуць.
З адной рукі, з другой рукі,
Усё, што бачаць, рэжуць.

І мухамор адчуў жуду
Ад нешчаслівай долі.
Яго не зрэжуць на яду,
Затое падфутболяць.

Намотваю — а што з таго? —
Па лесе кіламетры.
Заходжу ў лес, іду з яго,
А ў кошыку — паветра.

А-у, лясы! А-у, бары! —
Гукаю сэрцам чулым.
Дзе вы, грыбкі, мае сябры? —
І чуецца: — Ў мінулым.

## Карагод

У азёрнай водзі
Белыя аблокі
Ў дзіўным карагодзе
Танчаць — рукі ў бокі.

І да карагоду
Скочыць хоча ў воду
Вярба трапяткая.

Але бераг моцна
За нагу трымае
І не адпускае.

Адплылі аблокі
Аж да неба краю,
У абсяг шырокі,
А вярба чакае.

А вярба бядуе —
Дзе ў вадзе адбіткі?
А вярба сумуе,
Плача ўвачавідкі.

## Такі падмурак...

Адвеку чалавецтва ў часе блудзе,
То ўскрыліцца, то страчвае крыло.
Як цяжка разабрацца ў тым, што будзе,
Не зразумеўшы толкам, што было.

Гісторыю не зразумець агулам,
Лістаць старонкі трэба пакрысе.
Ўся будучыня тоіцца ў мінулым,
Там поспехі і там памылкі ўсе.

Памерлых процьма там, ды больш забітых,
Прыгнечаных — зноў не злічыць, на жаль.
Галодных безліч там і жменька сытых,
Бяспраўных там было… Усе амаль.

У тым «было», каб неяк выжыць, людзі
Аплочвалі штодзень жыццём сваім…
Такі падмурак вось пад тым, «што будзе» —
Ці ж будучыня устаіць на ім?

Не абмінуць, на жаль, ёй штучнай ночы,
Глыне напой сваіх памылак зноў,
Зноў чалавецтва тупікова крочыць,
А следам крочаць — голад, сытасць, кроў.

## Іншы міг

А сонца нам апошні раз
Мігнула і нырнула ў голле.
І дзень задумліва прыгас,
Засумавала наваколле.

Мы — гэта я і цэлы рой
Старых і новых успамінаў.
Калісьці тут, такой парой,
Стаяў я са сваёй дзяўчынай.

Было нам весела тады,
У міг той дзіўны і вялікі,
Наперадзе жыццё — гады,
Гады, без меры і без ліку.

Той «доўгі» міг — мінулы час,
І сэрца іншы міг адчула —
А што, калі апошні раз
Мне сёння сонейка мігнула.

## Пяты

Мой пяты том, ён не зусім звычайны
Для аўтарства ссівелага майго.
У ім — прыгоды, казачныя тайны
І безліч незвычайнага ўсяго.

Ў ім — птушак свет,
Свет рыб, звяроў, раслінаў,
Ўсе зносяцца на мове дабрыні.
Спаткаўшы старасць, аўтар не здзяцінеў —
Мне казкі не хапае ў кожным дні.

Вось так і нарадзіўся том мой пяты,
Між іншых, ён мне вельмі дарагі.
Маленства наша ў казках,
Казкі — святы,
Яны ратуюць нас у час тугі.

## Форс – у бакі

Літаргічна спяць абшары,
Ледзьве кратаюцца дні.
Не разбудзяць мае мары
Прадзімовай цішыні.

Шэрасць, холад вочы нудзе,
Хмары нізкія хліпяць.
Ой, як цяжка дрэвам будзе
«Голым» перазімаваць.

Дождж ад’еў усе пячонкі,
Ды занудзісты такі.
Дастаю і я валёнкі —
Форс і стыльнасць — у бакі.

# Жыць нанова

Кроўнародныя — ў зямліцы,
Безвыходнасці аблога.
Трэба зноўку жыць вучыцца
З тым, што ёсць, а ёсць — нікога.

«Ёсць» — яно са мной нязменна.
Я вучуся — нікудышны,
Я вучуся — вучаць дрэнны,
Ў свеце непатрэбы, лішні.

Цяжка мне? Не тое слова.
Жыў ці не? Ўсё за плячыма.
Навучыцца жыць нанова
Немагчыма…
Немагчыма…

*25.IX.2019.*
*30 год як памёр тата*

## Раненая птушка

Жыццё, яно… Не, не маё,
А ўвогуле жыццё людзей,
Яно, як раненая птушка
Сярод драпежнасці падзей,
Пад ціскам хмарнасці свінцовай.
Яму б ляцець да долі новай,
У ясны свет, у неба сінь,
Да малазведаных вяршынь,
Да сонца вечнага, але…
Але ўзляцець не удаецца
Высока на адным крыле.
І птушкай раненаю б'ецца
Жыццё, як і планета-маці,
З адвечнай мараю аб шчасці.

## Яна ёсць

Ах, як імкнуўся я наперад,
У мараў казачны дызайн,
Нібыта ёсць такія дзверы,
Іх расчыню, як тайну тайн.

Спачатку й да жыцця акрайны,
Нязведанае вабіць штось.
Імкнуся я да нейкай тайны,
Яна, упэўнены я, ёсць.

Яна гукае ледзьве чутна,
Яе я чую… чуць хачу.
Інакш жылося б мне атрутна,
Хоць стаў жалобную свячу.

І я лунаю святакрыла
І веру — вера не міне:
Жыццё не ўсё сваё адкрыла
І штосьці рыхтуе для мяне.

І я іду да невядомай
Падзеі, за якой сюрпрыз.
І не палохае ні стома,
Ні тое, што качуся ўніз.

## Часу вока

Сваё жыццё такім, якім было,
Я не магу прыняць агулам, цалкам.
Яно, нібыта трэснутае шкло,
Штось кожным адлюстроўвае кавалкам.

Адлюстраванні тыя, як суддзя,
Адказна вывучае часу вока.
Але й без часу разумею я —
Хаосу да гармоніі далёка.

Кавалкі не сабраць ужо ў адно,
Ды і навошта?
Шмат між іх нязгоды.
Жыццё, як шматсерыйнае кіно
І серыі бываюць антыподы.

## Несціхаючы ґімн

Бываюць жа дні — як карціна у раме,
Застыла прырода, нібыта у сне.
Яна, як пасрэднік між вечнасцю й намі,
Спакоем сваім за жывое кране.

І як не заглыбіцца ў светаўтварэнне?
У сёння з учора быў шлях не прамы.
Дзе нашы вытокі? Дзе нашы карэнні?
Прырода нам маці? А мы? Хто ёй мы?

Эх, ціша якая! Эх, замілаванне!
У роздуме гэтым ёсць месца усім.
Тут мары лунаюць, шчыруе каханне,
Вітае жыцця несціхаючы гімн.

Зямлю цішыня атуляе пяшчотай,
Ні ветрык, ні гукі не кратаюць слых.
І толькі асіна трапеча лістотай
У рытме збалелых пачуццяў маіх.

## Адна!

*Першы нацыянальны скарб —*
*родная мова*

Змітрок Бядуля

Галоўны скарб нацыянальны — наша мова,
Матулі роднай мова й роднае зямлі.
І над табою, Беларусь, невыпадкова
Штогод з асобым болем плачуць жураўлі.

Не, не таму іх плач падобны на памінкі,
Што іх з Радзімы гоніць хуткая зіма,
А ад таго, што мовай цешацца адзінкі,
А вось дзяржавы сярод іх, на жаль, няма.

Заўжды цаніў каштоўнасць самых розных моў я,
Ды беларускай — найвышэйшая цана.
Ў дзяржаве можа быць двухмоўе ці стомоўе,
А мова ўсё ж нацыянальная адна!

# І што?

Рэчка творчасці днямі й начамі
Па напружаным лёсе цячэ.
Колькі творчых сустрэч з чытачамі
Адбылося і будуць яшчэ!

Колькі пошукаў, творчых пакутаў
Зведаў я — іх не зведаў ніхто.
Кожны твор з бездухоўнасці путаў
Да святла вырываўся…
І што?

Бездухоўнасць лунае над светам,
Апустошвае душы людзей.
Можа, лепш бы я быў не паэтам,
А адчайна гуляў у хакей.

Тут вядомасць табе і пашана,
І увага дзяржавы найперш.
Не! Ўсё ж Богам мне наканавана
Не бяздушная шайба, а верш.

## Апошняе прыму

Усім нам хочацца знайсці
Прытулак шчасця чалавечы.
Нас ацяжарваюць ў жыцці
Спакусы, зайздрасць, грошы, рэчы.

Мы абрастаем пакрысе
Усім, што трэба і не надта.
І гэта па жыцці нясем
Перазапашаныя сквапна.

І я калісьці — сведка Бог,
На хлеб разжыўся, і да хлеба,
І абжываўся ўсім, чым мог,
Пакуль жывы — ва ўсім патрэба.

Усё, што даў Гасподзь майму
Жыццю, я не вазьму ў дарогу.
Цяпер апошняе прыму,
Ў адзін канец білет — да Бога.

## Хутчэй не трэба

Сярод забаў юнацкіх, сталых спраў,
Сярод вірлівых дзён, ура-начэй,
Я ледзь за сваім сэрцам паспяваў.
Яно вяло мяне: — Хутчэй! Хутчэй!

Яно, нібыта вечны рухавік,
Шалёным рытмам абганяла час.
Калі стамляўся я, яно — у крык:
— Хутчэй! Хутчэй! Жывецца толькі раз!

Ды для любога «я» пара свая,
Цяпер мой сумны скарб — гады мае.
І ўжо «хутчэй!», на жаль, не чую я —
І вечны рухавік мой збой дае.

І ўжо не ён мне кажа, я яму:
Нястомныя гады стамляюць плоць.
Цішэй! Нас час скіроўвае ў зіму.
Хутчэй не трэба, не заглухні хоць.

## Чаму? Чаму?

Хачу звярнуцца ўслых
Да праведнага Бога —
Навошта крыўдзіш тых,
Не крыўдзіць хто нікога?

Чаму караеш ты
Сумленных, міласэрдных?
Й не цэліш гнеў святы
Ў злачынцаў ненажэрных?

Ты глянь, хто у царкве
Шукае суд Эзопаў.
Той, хто ледзь-ледзь жыве
Пад ціскам недахопаў.

Хто воз ледзь цягне свой
Праз год цяжкіх прыгоны.
Той, хто, апроч тваёй,
Не мае абароны.

Зірні ў царкву, зірні,
Ёсць ад чаго здзіўляцца —
Няма тут ў нашы дні
Ўладальнікаў палацаў.

Няма тут (не шукай)
Ад сквапнасці залежных,
Чыё жыццё праз край
У сытасці бязмежнай.

Карыта іх — яно
Вышэй ўсяго святога.
Вядома ўжо даўно —
Гром грымне — дык да Бога.

Не бачна у Царкве
Й памазаных уладай.
А вера ўсё ж жыве
Без заняпаду.

І моладзь — дзе-нідзе,
Павінна ж быць іначай.
Зноў у Царкву ідзе
Боль, старасць і нястача.

Хвала імю твайму,
Ты, Божа, мудры самы!
І ўсё ж чаму, чаму
Амаль пустуюць Храмы?

## Перад вачыма

Не расчароўваў тое,
　　　　　　　　　ў што я веру,
Ад праўды не адводзіў вочы ў бок,
Сваю спіну не падстаўляў я ветру,
І не пайшоў за ўсімі —
Крок у крок.

Магчыма памыляўся я…
Магчыма.
Даводзілася крочыць наўздагад.
Ўсё, што зрабіў ці не я —
За плячыма,
Затое, колькі жыць —
　　　　　　　　　перад вачыма
Не згорблены натоўп, а далягляд.

## Так бы заўсёды!

Прыгожы быў і малады,
Быў апяшчоцены вясною.
І легкадумныя гады
Не разміналіся са мною.

Мы — ўперад, мы — ў руцэ рука,
Мы — ў авантуры, мы — ў прыгоды.
Так лоб шукае гузака —
Эх, так бы віраваць заўсёды!

Сколь ні шыкуй, мінае шык,
Як дзень імчыць у ноч ад ранку.
Жыццё — не вечны рухавік,
Тым болей, маладосць-маланка.

Прыгожы быў і малады,
І захмялелы ад штодзёння.
Я быў фантанам мар тады,
Ды страціў моц фантан мой сёння.

## Бясцэнны скарб

*Памяці Уладзіміра Содаля*

Хоць ты пайшоў з жыцця,
Не веру слову «быў»,
Ты ёсць, ты будзеш побач жыццякрыла.
Ты родную зямлю, як маці, палюбіў,
Яна цябе, як сына, прытуліла.

З юнацтва скіраваў душы ўзлёт круты,
Ты цешыў думкай нас і «Родным словам».
І доследы твае, і кнігі — гэта ты,
Ты — як само гучанне нашай мовы.

Ты шмат навыкрасаў,
Хоць многа не паспеў,
Руплівы, заклапочаны, сумленны.
Ты аддаваў усё, што ў шчырым сэрцы меў,
І гэты скарб душы тваёй — бясценны.

## Гмах

Я іду па зямлі… З часу мала карысці,
Ён гадзіну апошнюю хутка праб’е.
Ах, як цягне зямля да сябе, а калісьці
Не спыняўся, не чуў пад нагамі яе.

Мной пражытае, маларэальным міражыць,
Толькі болем рэальным тыраніць мяне.
Кажуць, час, як і думкі, нічога не важыць,
А гады — гэта ж час.
Што ж так долу ён гне?

Мы нясем гэты гмах — час жыцця чорна-белы,
Дажываем пад ім, не адзін толькі я.
Гэты гмах адчуваюць і душы, і целы,
Час, патрачаны марна, цяжэй удвая.

## Паэзіі нектар

Нягучных твораў ціхімі радкамі
Вам прапаную гэты Божы дар,
Каб вы, хаця б маленькімі глыткамі,
Пілі маёй паэзіі нектар.

Каб хмарнасць засталася за спіною,
А ўсмешкам стала цесна на зямлі,
Каб вы адчуць вясёлкавасць настрою
І сонечнасць свайго жыцця маглі.

Паэзія, вы, я, вясна, каханне,
Тут будзе ўсё ў радках і паміж іх.
Галоўнае — душы з душой спатканне
І ўвасабленне мар усіх сваіх.

## Дарадцы

Зіма законам Божым
І мне наканавана.
Збірайся! — кажа розум,
Пярэчыць сэрца: — Рана!

Зіма жыцця стасункі
Заснежыць, замяцеліць
Пара! — віруюць думкі
Душа шчыміць: — Паспееш.

Ніколі нам адвеку
Ў сабе не разабрацца.
О колькі ў чалавеку
Затоеных дарадцаў.

## З адзінай марай

Складаю верш ці оду
З адной-адзінай марай —
Уславіць бы свабоду,
Прагнаць ад сонца хмары.

Даць волю думкам, словам,
Адкрыць свет безбаязны,
Каб быў ён не часовы,
А вечны і адказны.

Каб з душаў скінуць шоры,
Даць ісціне бязмежнасць,
Не тру́ціла каб творы
Ад цэнзараў залежнасць.

Над лёсам наша мова
Нам зорыць Шляхам Млечным.
Было ж ты першым, Слова,
Дык будзь жа вольным вечна!

## Упоперак

О старасць, сумная, сляпая,
Сказаць табе ці не,
Чаго мне сёння не хапае,
Што сёння сніцца мне?

Мне не хапае выбуховай
Разынкі ў кожным дне.
І безаглядных, безгаловых
Дзён не хапае мне.

Хачу для прыгажуні мілай
І для усіх людзей,
Быць ратавальнай песняй шчырай,
Каб сэрца птушкай вольнакрылай
Ірвалася з грудзей.

Я жыць хачу, ці ж гэта мала,
Уздвіжыцца да зор.
А ты упоперак мне стала,
Як памінальны хор.

## Наканавана

Іду па роднае зямлі,
А нада мною жураўлі,
Край неба стылы.
А сум за сэрца — шчып ды шчып,
А я нагамі — клып ды клып,
Эх, мне бы крылы.

Але куды ляцець? Куды?
Хоць восень тут і халады,
Ды тут Радзіма.
Тут разам зімаваць мне з ёй,
Ляцець з гнязда душы маёй
Мне немагчыма.

У вырай адлятаць — не мёд,
А птушкі мусяць кожны год
Ляцець старанна.
Тут гнёзды віць, там зімаваць,
Там па Радзіме сумаваць
Наканавана.

## Кароўцы

Што пажадаць хачу кароўцы,
Што ў лузе травастой скубе?
Няхай выпасвае цябе
І ні ланцуг,  і ні вяроўка.

А вольны ранак, ясны дзень,
Праводзіць цёплы вечар з луга.
Хай не кусае авадзень,
Не апякае хлыстка пуга.

Галоўнае на ўсе гады —
Даіся шчодра, спраўна, многа.
Не будзе малака — тады…
Тады адна табе дарога.

## Жыць непрыемна

Жывеш і — вось якая справа:
Праз шмат мінулых летаў, зім,
Жыць з часам не зусім цікава
Ці нецікава жыць зусім.

Не верыў я, жыў не манахам
Ды і не голым каралём —
Я й беднасць успрымаў з размахам,
Й апошнім шыкаваў рублём.

Бяда-нуда пятлёй удава
Затужвала штораз, штогод
І я адчуў, як жыць цікава
Было — цяпер наадварот.

Мне ў пастцы думкі патаемнай
Жывецца без прыемных дат:
«Жыць нецікава — жыць нікчэмна,
Ды стала жыць мне непрыемна,
Калі памёр апошні брат…»

## Душэўны настрой

Дзень такі невысокі,
Плачуць дзесь жураўлі.
Хіляць бóкі аблокі
Ўсё ніжэй да зямлі.

Шапку ў неба закінуў
Насцярожаны клён.
Чарадзе жураўлінай
Шле паклон наўздагон.

Сумна робіцца, пуста,
Хоць куды ні зірні.
Восень, з густам Пракруста,
Укарочвае дні.

Дождж ліне ці заснежыць,
Ўсё ж любою парой,
Не ад іх ён залежыць,
Наўшых душаў настрой.

## Клін клінам?

Душа баліць небезпрычынна —
Як жыць? Як ратавацца мне?
Тады я гэты боль няспынны
Таплю, як многія, ў віне.

І цешыцца душа жывая,
Што ў алкаголі боль прытух.
Назаўтра боль мой усплывае
І з новай сілай раніць дух.

Цяпер мяняецца ўсё крута,
Я пасля п’янкі ледзь жывы,
Бо дадаецца да пакутаў
Душы маёй, боль галавы.

Пакуты, боль душы, нягоды,
Віно, з пахмелля галава…
Клін клінам выб’еш не заўсёды —
Быў клін адзін, а стала два.

## З вашай ласкі

Пацалунак хмельны першы,
Вёсны, песні зычныя,
Вы мае стваралі вершы
Першыя, лірычныя.

Мараў казачныя далі,
Спеў салоўкі ранняга,
Вы мой лёс, мяне стваралі,
Ў вершы закаханага.

Вёсны, песні, мары, казкі,
Вочы васільковыя,
Вершы з вашай шчырай ласкі,
Нараджаю новыя.

## Геніяльна і проста

Жывеш і адчуваеш востра —
Ў жыццё, з жыцця — адзін парог.
Як геніяльна ўсё і проста:
Прыйшоў, убачыў, перамог.

О, гэты лозунг перможны,
Шмат сапсаваў жыцця ў жыцці
Прыйсці і ўбачыць можа кожны,
А ўбачыць і перамагчы?

Тут мы — каса, мы самі й камень,
У нас жыве агонь і лёд,
Й супрацьстаянне наша з намі,
Усё жыццё, ад году ў год.

Пасля гадоў дзевяцібальных
І ціхіх год — жыцця вянец.
Як проста ўсё і геніяльна —
Заплюшчыў вочы і — канец.

# Фотасінтэз

Пішацца, бывае, і начамі,
Пішацца без стомы, безупынку.
Шчыра, пры сустрэчы з чытачамі,
Аддаю сваёй душы часцінку.

Аддаю…
І гэта мне прыемна.
Я стварыў так шмат невыпадкова,
Бо даюць мне чытачы ўзаемна,
Значна больш — сваю любоў да слова.

Значна больш даюць мне — двойчы, тройчы,
Ў чытачах — мае адкрыцці, тэмы.
Вось такі ён, фотасінтэз творчы,
Нараджае вершы і паэмы.

## Да твару твар

*Лицом к лицу лица не увидать*
С. Есенин

Сярод надзей, няздзейсненасці мар,
Сярод падзей — удачаў і няўдачаў,
Мы з ім штодзень, штоноч — да твару твар,
Мы — нос у нос, як цемра і гушчар,
І ўсё-такі я твар яго убачыў.

І да драбніц я вывучыў яго,
Любіў і не любіў, прымаў з уздыхам —
Не проста твар, а твар, жыцця майго,
Адзначанага і святлом, і ліха.

Ён, твар жыцця, трымаў мяне ўвесь час
Амаль што без усмешак і без святаў.
Ды значна больш было на ім грымас
І горкіх слёз ад непараўных стратаў.

Вунь сонейка зірнула паміж хмар,
Магчыма, дзень рыхтуе мне удачу…
Я бачу твар жыцця — да твару твар,
Яго я на адлегласці не ўбачу.

## Толькі так

Я размаўляю вершамі з табой,
Жыццё людзей, звяроў, раслін нябёсаў.
І б’ецца ў сэрца чулае прыбой
Усіх шчаслівых і няшчасных лёсаў.

Адсюль і столькі самых розных тэм —
Раздрай дзяржаў, душы з душой адзінства,
Чарнобыль, Трасцянец, Хатынь, Эдэм,
Зло і дабро, каханне і злачынства.

Да іх звяртаўся вершамі не раз,
І слоўмі, і душой кранаю тэму.
Хачу ад тэмы кожнай у адказ
Адчуць яе глыбінную праблему.

Хоць боль не мой, а ў горле слёз камяк,
Хоць радасць не мая — душа наўздыме.
Жыць неабходна так — і толькі так,
Інакш ідзеш не па жыцці, а міма.

## Агеньчык надзеі

Ў якой далі б ні быў я ад людзей,
Якія б ночы не глядзелі ў вочы,
Я нават ад нязздзейсненых надзей,
Ад іх святла ледзь бачнага не збочыў.

Хоць нішчылі мяцеліцы сляды,
Хоць паглыналі белы свет завеі,
Я кіраваўся праз гады туды,
Да вечнага агеньчыка надзеі.

Я й сёння не стамляюся ісці,
Хоць цемра ў вочы і не тыя сілы.
Мае арыенціры у жыцці —
Мае надзеі, майго лёсу крылы.

## Загадкавасць душы

О, чалавек-дзівак! Ён на зямлі жыве,
Плануе штось, будуе, гаспадарыць,
А носіць у душы, у сэрцы, ў галаве,
Загадкавыя, незямныя мары.

Няблага на зямлі, усё, здаецца, ёсць,
А ён кудысьці прагне падсвядома.
Ён — гаспадар зямлі, а мары тут, як госць,
Вядома, што ў гасцях не лепш, чым дома.

Загадкавасць душы, о дзіўны чалавек,
Жыве ў ім смага да прыгод сляпая.
Ён нарадзіўся тут, тут дажывае век,
І ўсё ж яму чагосьці не хапае.

## На роснай сцежцы

На той сцяжынцы ранкаў росных,
Якой ступалі колісь мы,
Слядоў не знойдзеш нашых вёснаў,
На ёй ужо сляды зімы.

І толькі смутку чорны лебедзь
Над ёй крыламі рэжа час.
Ды памяць зараснік цярэбіць
Падзей і год, што крэсляць нас.

І, падпіраючы плячыма
Жыцця навіслы небасхіл,
Мне верыцца, што з той дзяўчынай
Ўзмахнём мы парай белых крыл.

Й апусцімся ў тым самым месцы,
Адкуль распачалі гады,
Каб аднавіць на роснай сцежцы
Сваёй мінуўшчыны сляды.

## На каго?

Я сёння, як агрызак-недаедак,
Цікавы мала ў мешаніне мас.
Мне па душы ступае напаследак,
Неўважлівы да нашых душаў час.

Відаць, мне дажываць у самапасе,
У смутку, напярэдадні бяды.
Ну што ж, дагэтуль я ступаў па часе,
І нават пакідаў на ім сляды.

Гадоў жалоба — не смала-жывіца,
Не гоіць сэрца чулага майго.
Шукаю на каго б мне памаліцца —
О жах! Так і не бачу на каго.

# Азалачу

*(Эпітафія)*

Мне будзе сніцца ў вечным сне
Жыццё,
Каханне,
Дом мой мілы.
І хтосьці ўспомніць пра мяне,
І вечны сон мой не міне,
І ціха стане ля магілы.

За гэта ўдзячнасць вам мая,
Жывіце ў шчасці і каханні!
Маўчанне — золата, і я
Усіх азалачу маўчаннем.

# Доследы

За годам год…
Сівых гадоў завея…
Агонь у сэрцы, холад па спіне…
Баюся, што ніхто не зразумее,
Што хвалявала, што гняло мяне?

Якая моц мне надавала сілы?
Якія сілы пазбаўлялі іх?
Што альбо хто і як надламваў крылы?
Чым, часам, засцілала зрок і слых?

Што на душу халодным ценем ле́гла?
Што адагрэла сонейкам яе?
Пра гэта лепш бы прачытаць не бегла,
А ўдумліва, як доследы свае.

## Па нерушы

Нібы вясной, па белым бэзе,
«Падвесяліўшы» галаву,
Па нерушы — свяжуткім снезе,
Бег да цябе «на рандэву».

Я дакрануўся сэрцам шчырым
Да палкай шчырасці тваёй.
Мае сляды ляглі пунктірам
На снезе, між табой і мной.

О гэта сцежка снегавая,
Хутчэй бы новы снег, хутчэй!
Ён мой начны візіт схавае
Ад зацікаўленых вачэй.

# У адказ – нікога

Адвечны шлях, які распачалі
З глыбінь вякоў мае пра-пра-прапродкі,
Не раз, напэўна б, лёг вакол зямлі,
Такі ён доўгі і… такі кароткі.

Мы, родныя, дагэтае пары
Ішлі праз тоўшчу часу паасобку.
Круціла ўсіх жыццё ў сваім віры,
Хтосьпамiраў малы, а хтось стары,
Стагоддзі за спіной — я стаўлю кропку.

Адвечны шлях…
Ды абарваўся след,
Які меў шчасце быці з ласкі Бога.
На прозвішчы на нашым — клінам свет.
— Гэй, Давідовіч!.. А ў адказ нікога.

*22 кастрычніка 2019 г.*

*Два гады як памёр брат Косцік*

## Не наша справа

Дапамагаць мне, Бог, дапамажы
Тым, хто не пражыве без дапамогі,
Хто між жыццём і смерцю на мяжы,
Бяздомнікам, сябрам чацвераногім.

Пра іх пісаў, пішу і буду зноў
Пісаць, крычаць душой сваёй і словам.
Ды і пра нас, як мы сваіх сяброў
Бяздушна адштурхнулі, безгалова.

Чужое нам баліць усё радзей,
Гаротнікі вакол — не наша справа,
Калі дзяржава, кажуць, між падзей
Не заўважае ні старых людзей,
І ні жывёлін — хворая дзяржава.

## Асцерагайцеся

Асцерагайцеся шалёнага сабаку,
Хоць ён хвастом віхляе памяркоўна.
Ён хутка ператворыцца ў кусаку,
Параніць агрэсіўна і раптоўна.

Ён можа падысці зусім маўкліва,
Нібыта сябар, ды ўгрызне рашуча.
А калі брэша — быццам, незласліва,
Кусаецца затое, ой балюча.

Тады ўжо — ратавальныя уколы,
Ды не заўсёды можна ўратавацца.
Ад гэтай небяспечнае жывёлы
Жадана на адлегласці трымацца.

## Безбаязна

Канец жыцця…
Што я ў сабе нашу?
Дай сілы напаследак мне, Ісусе.
Каб хтосьці зазірнуў мне у душу,
Здзівіўся б, не паверыў бы, жахнуўся.

Ад мараў — выстыў след, шматкі ад мэт,
На сёння зеўрыць згінуўшае ўчора.
Унутраны мой свет — даўно не свет,
А ме́шанка з пакутаў, слёз і гора.

А я пішу… І гумар праслізне,
І думкі паднімаюцца з каленяў,
І цяжка, не зрабіцца ценем мне,
Сярод пякучых сэрца стратаў-ценяў.

І сам сабе дзіўлюся — я жывы,
Аб чым прылюдна сведчу і адказна.
А я жыву — і ні ніжэй травы,
І ні цішэй вады, а безбаязна.

## Няспешнасць

Спыніўся я на роднае зямлі,
Магчыма, першы раз, бо жыў імкліва
І азірнуцца не было калі,
Бо дзень за днём імчалі — і не дзіва!

І вось цяпер задумліва стаю,
Стамляе горш за рух няспешнасць гэта,
Як быццам раптам у душу маю
Ўвайшло адлюстраванне таго свету.

Нібыта ўзяў і знік я ў нікуды,
Надзею страціў — самае святое.
Жыццё, яно без руху, сапраўды —
Жыццё, але ні тое і ні сёе.

Маланкай думка сэрца апякла,
І змрок душы прапаў — каму ён трэба!
Вунь нават птах, без аднаго крыла,
Ўзляцець імкнецца, гледзячы на неба.

Жывеш — калі не зломлены твой дух,
Жыццё штодзень — напружаная праца.
Стамляючыся, лепей сцішыць рух,
Толькі не ступар!
Толькі не спыняцца!

## Касмічны скульптар

*Народному мастаку*
*Беларусі, скульптару*
*Івану МІСКО*

Якую душу мець узнёслую трэба,
Які ў сэрцы трэба мець творчы прастор,
Каб працай узняцца не проста у неба,
А сэрцам натхнёным ляцець аж да зор.

Туды, дзе маланкай імчаўся Гагарын,
Туды, дзе за ім і другія былі,
Туды, у касмічныя бездань-абшары,
Куды толькі мары ўзляталі з Зямлі.

Туды, дзе ўжо ззяюць сузор’ем нязнічным
Клімук, Кавалёнак, Навіцкі – і ўсе.
І ён, сваёй творчасцю, скульптар касмічны,
Ў майстэрні касмічную вахту нясе.

Ён самай высокай удзячнасці варты,
Яго незвычайна насычаны лёс.
Яго акрылілі касмічныя старты,
Хоць ён у зямлю сваю сэрцам урос.

# Ласкавы чарадзей

Слязамі ледзяшоў заплакала вясна,
На флейце ручаёў зайграла пераможна,
І подыхам сваім душу маю яна
Кранула далікатна й асцярожна.

І па вашчынах стрэх разліўся сонца мёд,
І позіркі з-пад іх расплюснулі застрэшкі,
Ад колішніх завей, ізноў, як кожны год,
Пагоркі агаляліся без спешкі.

Вярнуўся сакавік, ласкавы чарадзей,
Апра́нуты у сваё святочнае адзенне.
Для стомленых людзей прыйшла пара надзей
І ад дакучных халадоў збавенне.

## Апраўданыя надзеі

Як шмат разоў хадзіў па баразне
За плугам я, за конікам прысталым.
Даводзілася коніку і мне
Ад стомы уратоўвацца прывалам.

Куру, бывала я, а конь скубе —
Хвіліна-дзве, зноў трэба напінацца.
Хоць мы, здаецца, кожны па сабе,
Ды не, адной упрэжаныя працай.

Эх тыя, пяцьдзясятыя гады,
Захамутаны кожны быў тым часам.
Ні тэхнікі, ні трактара тады —
Прынука і кульгавыя калгасы.

Ніводнага не памятую дня,
Без плуга, без касы, сяўбы і пашы.
Уся была надзея на каня,
І конік апраўдаў надзеі нашы.

## Пахаладала

Пахаладала…
Пахаладала…
Было цяплей, было цяплей.
Ці ў сонца жару ў запасе мала?
Мо быў дужэй?
Ці жыў смялей?

Пахаладала…
Пахаладала…
Ад безнадзей? Ці ад падзей?
Ўсё ноч ды ноч. Няўжо апала
Для ўсіх людзей,
Для ўсіх людзей?

Пахаладала…
Паўночнік вые.
Няўжо ён спраўдзіць для нас прагноз?
І ледніковы ідзе перыяд,
І за марозам
Ідзе мароз?

## Блакітная дарога

Сінь. Акіян высокі,
Такі прыемны воку.
А белыя аблокі,
Як лебедзі з далёку.

Ці з выраю, ці ў вырай,
Плывуць яны паволі.
І гэтай казкі шчырай
Не дачытаць ніколі.

Здаецца, сам бы вольна
Ляцеў сінь-акіянам.
І кінуў кліч бы сольны,
Як той важак прызнаны.

Блакітная дарога,
Прывабная такая
Ды ад свайго парога
Зямля не адпускае.

І кроўнай пупавінай
Трымае родны краю.
Аблокам лебядзіным
Я ўслед рукой махаю.

## Адной мы долі

Ад беднаты, ад самапасу,
Я прадзіраўся ў гэты свет.
Я — сын зямлі, людзей і часу,
Душы агеньчык між планет.

Я творчасцю свяціў праз хмары,
Спяліў духоўнасць на крыле.
Я спадзяваўся — так я марыў,
Што я патрэбны ўсім, але…

Я марыў там, дзе лішні трэці —
Агеньчык міжпланетны згас.
Я — пасынак на гэтым свеце,
Чужы, на жаль, і свет, і час.

Я — сын зямлі, адной мы долі.
Яна, як маці, ў час бяды,
У векавым сваім прыполе
Мяне прытуліць назаўжды.

## Душэўна-хворыя

Душэўна-хворыя,
О як вас не стае
У нездаровы час наш —
Асабліва.
Душэўна-хворыя —
Паплечнікі мае,
Бо й сам душэўна-хворы я —
Не дзіва.

Ёсць ісціна,
Вядомая спрадвек,
Забылася яна —
І гэта блага:
Баліць душа —
Й здаровы чалавек,
А не баліць —
Хварэе, бедалага.

Ні шкоды,
Ні карысці ад яго,
Ён — цень, пустое месца
Паміж намі.
Іх абыходзіць трэба,
У каго
У душах штыль,
Хаця вакол цунамі.

Хто б ён ні быў,
Акцёр альбо кароль,
Ці дэмакрат
Слугой народа будзе,
Калі душой
Ён не адчуе боль
Другіх людзей —
Не пазайздросціш людзям.

О, каб балелі душы
У людзей,
Было бы больш і больш
Душой здаровых.
Хварэла б чалавецтва
Ўсё радзей,
Крывавых свет
Пазбавіўся б падзей.

## Ён нам дапаможа

Ад калыскі, ад народзін,
Кожны нёс свой крыж праз час.
І у кожным дні і годзе
Чулася ў дышы не раз,

Чулася прыгожа:
Дзякуй табе, Божа!

Усяго ў жыцці багата —
Нараджаецца дзіця,
З цудаў цуд, са святаў свята,
Ранак новага жыцця.

Шчыра цэпчуць губы:
Дзякуй, Божа любы!

А бывае, што раптоўна
Лёс бяду прыпаднясе,
Зноў да Бога маліто́ўна
Мы звяртаемся усе.

Крыж цалуем тройчы:
Злітуйся, наш Ойча.

Ох не простая дарога
Нас чакае па жыцці,
І усё ж мы славім Бога,
Ён нам даў па ёй ісці.

Ён нам дапаможа,
Слава табе, Божа!

## Як быць?

Ўсё доўгае жыццё маё
Ператварылася ў імгненне,
Каб не мае вершатварэнні,
Маё ўсё б знікла ў нічыё.

І быў, не быў я — ўсё адно,
І жыў не жыў — усё адзіна.
І гэта ўсё, каб піць віно,
Чым не прычына?

І гэта ўсё, каб піць адчай,
Чым не грунтоўная нагода?
Хоць выпітага аж праз край,
Кіруе матухна-прырода.

Яна сваё ўсё гне ды гне,
Як кажуць, з ёй не зварыш кашу,
І як мне быць? Цяпер адно —
Верш дапішу і заалкашу.

## Мерыдыяны, паралелі

Па ўсёй планеце крутабокай
Мерыдыян свой пракладу.
На самай станцыі далёкай
Засведчыць гэты факт сыйду.

Праеду вёсны,
Леты,
Зімы,
Мацерыкі і акіян.
Імя маёй малой радзімы
Будзе насіць мерыдыян.

На карце правяду пункцірам
Свой шлях,
Няблізкі свой маршрут.
Я шар зямны аб'еду з мірам,
Каб расказаць пра родны кут.

Пра светлы сум бацькоўскай хаты,
Як цёпла і утульна ў ёй.
Пра тое, чым мой край багаты —
Людзьмі й гісторыяй сваёй.

Я спадзяюся сэрцам шчырым,
Што мой пачын не прападзе.
Магчыма, хтось насустрач з мірам
Мерыдыян свой пракладзе.

А там, глядзіш, і паралелі
Ляглі бы мірна на зямлю.
І людзі будучыню б мелі,
І людзі б мірна спаць маглі.

О, як нашу я мару гэту
У сэрцы, у душы, ў крыві,
Каб людзі абнялі планету
Як маці: — Родная, жыві!

Мерыдыяны, паралелі —
Мы, часу дочкі і сыны.
Каб людзі будучыню мелі,
Павінен быць і шар зямны.

## Зімовае спатканне

Ну і сцюжа, ну і холад,
Ну й мароз, траскучы волат.
Дрыжыкі пайшлі па мне,
Так і скачуць па спіне.

Стыну ад вушэй да пятаў,
Толькі зоркі з чорных шатаў
След за мной не ўздрыгваюць,
А весела падміргваюць.

Ўсепагоднае каханне
Страх адсоўвае у кут.
Я дзяўчыну на спатканне
Запрасіў і мерзну тут.

Прыйдзе ўсё ж? Ці пабаіцца?
Як-ніяк, мароз, зіма.
Я дубею, час імчыцца,
А яе няма й няма.

Я — і вечар чорна-белы,
Ні душы вакол нідзе.
Раптам сэрцу пацяплела,
Погляд запаліўся смела,
Вунь яна — ідзе, ідзе!

## Замежны бруд

У тэрмінах заблытаўся я ўшчэнт,
Ішоў да любай колісь «на сустрэчу».
Цяпер гэта завецца «уік-энд»,
Аб гэта слова я язык нявечу.

Зацірку еў, а зараз барбекю,
Магдональдс нейкі, а куды мне дзецца.
Раней браў сала з хлебам у руку,
А сёння гэта сэндвічам завецца.

О слоў замежных непатрэбны бруд,
Не хочацца іх чуць, ды вуха чуе.
Мы гонар свой адсоўваем у кут,
Флэш мок і драйв гучыць то там, то тут,
Ад брэндаў, сэлфі, квэцаў — ванітуе.

Чужыя словы, як вясной зіма,
Тым больш, што наша мова ледзь жывая.
Нацыянальнай годнасці няма
У тых, хто бруд замежны ужывае.

## Асобая падзяка

Па ўсіх, якія ёсць,
Няпісаных законах,
Жыцця і смерці,
Смерці і жыцця,
Я да жыцця
Звяртаюся з паклонам,
Да смерці — не,
З ёй незнаёмы я.

Паклон табе, жыццё,
За ўсе твае праявы,
З іх многія —
Іх лепш бы не было.
Але ж наш свет —
І жорсткі, і ласкавы,
Такі ж, як мы усе —
Дабро і зло.

Вякамі шмат чаго
І бачана, і чута,
Заўсёды прадставаў
Прад намі час —
Ў адной руцэ бальзам,
Ў другой руцэ атрута,
Час, ён і лечыць,
І знішчае нас.

І ўсё-такі мы жыць
Не можам паза часам,
Ён — гільяціна
Нашага жыцця.

Віруе свет вакол,
А з лёсам мы сам-насам,
Аж да Харону,
Аж да адплыцця.

І ўсё ж за ўсё, чым жыў —
Тварыў,
Смяяўся,
Плакаў,
За ўсё, што праляцела,
Нібы сон,
Табе, Гасподзь, асобая падзяка,
Табе, маё жыццё,
Зямны паклон.

## Агонь душы

Мы ў новы дзень ідзём, час не стаіць на месцы,
За кожным новым днём, зноў дні і дні.
Мы праз усё жыццё павінны годна несці
Сваю душу, як факел дабрыні.

Не згасяць — веру я — святло душы нягоды
І зайздрасць, што за ўсе нягоды горш.
І цяжкасці жыцця, і часу перашкоды,
Пераадолець здолеў я ўсё ж.

Мой фініш вось ён, вось. Я прыімчаў здалёку,
І не знядужай майго лёсу конь,
Таму, што ў светлы час,
Таму, што ў чорным змроку,
Усё жыццё гарыць душы агонь.

## Дзіва для жывых

Я помнік для сябе зрабіў,
За ўласны кошт ён, рукатворны —
Адно з непрадказальных дзіў,
Мой надмагільны камень чорны.

Ён дзіва для жывых таму,
Што сам пакуль яшчэ жыву я.
Навошта гэта мне, чаму
Са смерцю гэтак я жартую?

Не, сёння не да жартаў мне,
Я думаю пра дзень наступны.
А чорны дзень той не міне,
Для кроўна родных, дзень атрутны.

Каб ім аблегчыць груз бяды,
Зрабіў я помнік — хай праз сілу,
Каб ім гатовае тады
Паставіць на маю магілу.

## Падмурак

Прыйшлі ў жыццё другія людзі,
Больш новыя, чым я.
І што далей з табою будзе,
Паэзія мая?

Калі і прачытае хтосьці,
Ці зразумее ён,
Як мне жылося ў маладосці,
Праз новы лексікон.

Жыў я і ўсе тады у горы,
Ў вайну, пасля вайны.
Мы, з бульбы, ўшчэнт гнілой, шайморы
Пяклі у тым галодным моры,
Праснчныя бліны.

І зноў, у час не самы горшы,
За намі гора йшло —
Жыўём нас заядалі вошы,
Бо мыла не было.

Жылі ў цяжкі той час няблізкі,
Амаль што нашчака.
Зацірку елі з адной міскі,
Без тлушчы, малака.

Жылі ў зямлянцы, а не ў хаце,
Бо ўсё агнём пайшло.
Адзенне — лаціна на лаце,
Абутку не было.

Амаль раздзеты і разуты
Ў зімовы нават час.
І голад, голад, голад люты
Грыз днём і ноччу нас.

А я ж пішу, пішу аб гэтым,
Што памяць не міне.
Як зразумець сучасным дзецям
І моладзі мяне?

Ім цяжка зразумець, сучасным,
Што я ні закрані.
Што гэта за прыгон калгасны
За так, за працадні.

А пасля іх, сучасных, новых,
Больш новых час прышле.
Не зразумець ім час суровы,
Нам дадзены, але…

Хоць нам глядзеў у вочы хмурна
Зусім няпросты час,
Мы ладзілі жыцця падмурак,
Ў тым ліку, і для вас.

# Доказы

Каб не сагнуцца, трэба быць сталёвым,
Каб не зламацца, трэба мяккім быць,
Не вораг гільяціна безгаловым,
Халоднакроўны — а душа гарыць.

І гэта ўсё, ёсць доказы, не чуткі,
Я ў іх пераканаўся, сколь жыву.
Ў жыцці сталёвым трэба быць і гнуткім,
Гарэць душой, захоўваць галаву.

Як разабрацца ў вінігрэце гэтым?
Калі быць мяккім, а калі, як сталь?
Як годна жыць перад сабой і светам?
Пытанняў шмат, адказаў менш, на жаль.

## Бела, чыста

Еду, еду ранкам раннім
Па заснежанай дарозе.
Цішыню прасуюць сані
Палазамі на марозе.

Конь пафырквае бадзёра,
Ён, нібыта той араты —
След ад саняў, як разора,
Па ўсім лесе, аж ад хаты.

Лапнік елак вісне сонна
Побач з хмызняком пахілым.
Недзе каркнула варона,
Лес азваўся рэхам стылым.

Ціха, светла, бела, чыста,
Час з зімой вядзе бяседу.
Ранкам раннім, урачыстым,
Дню насустрач еду, еду.

# Вялікае мінулае

Мінулае… Вялікае мінулае,
Здаўна з табой знаёмы не агулам я,

А лёсамі вялікімі асобнымі
І незвычайна значнымі асобамі.

Мінулае… Вялікае мінулае,
З табой душа свядомая і чулая.

Высвечваеш памылкі нашы моўныя,
Натхняеш нас на подзвігі духоўныя.

Мінулае… Вялікае, незгаслае,
Трымаеш на сабе жыццё сучаснае.

Ў палоне ты чакання шматгадовага —
Калі народзім мы прарока новага,

Калі нарэшце мы з гнязда уласнага
У свет акрылім песняра сучаснага…

Агульныя развагі — тайнаў сховішча,
Ніводнага не называю прозвішча,

Бо ўсе, як ні лічы, не пералічацца,
Сто назавеш, а застанецца тысяча.

Вядома нам усім сваёй элітнасцю,
Сузор'е наша слынных знакамітасцяў,

Уросшае ў гісторыю карэннямі,
Славутае сваімі дасягненнямі.

Мінулае… Пашаннае, вялікае,
Яно увышыню, наперад клікае,

Яно — арыенціры, вехі значныя,
Яго нашчадкі, мы яму удзячныя.

Як важна, каб яго мы шанавалі
І не заснулі, як на п’едэстале.

## «Мы» і «Я»

Ці народзіцца калісьці
Той, каб кожны ад яго,
Значна болей меў карысці,
Чым падчас ад «я» свайго?

Каб ісці за ім імпэтна,
«Я» адсунуўшы у кут.
Дзе ён, той аўтарытэтны,
Фізік, лірык, трагік, шут?..

Мы жылі ў гэткім стане
Доўга, як у страшным сне.
Сёння, калі «я» не стане,
«Мы» усіх нас паглыне.

# Будзем жыць

Мне немагчыма выкінуць былое
З душы, даўно якая стала ім.
У ім жывуць і родныя, і тое,
Што будзе лёсам назаўжды маім.

Я, без вагання, заяўляю смела —
Калі Бог спыніць шлях жыццёвы мой,
Калі душа пакіне маё цела,
Працягне жыць маё былое ў ёй.

Не, наш канец, не дамавіны века,
Не чорны змрок, не вечнасці тупік.
Ці ж для таго стварыў Бог чалавека,
Каб свет душы яго бясследна знік?

Мы будзем жыць, няхай не на Парнасе,
Няхай сабе не ў райскай вышыні,
Мы станем новым часам
Ў вечным часе,
Мы будзем жыць у кожным новым дні.

## Не кара – мара

О не! Даруйце! Час не лечыць!
Боль не адкідвае ў бакі.
Ён стратаў груз кладзе на плечы
Балючы больш і больш цяжкі.

Не адмаліцца, не адхрысціцца
Ад болю і ад кроўных страт.
І сэрца, і душы часціцы,
Не зоркапад, а лёсапад.

І гэта ўсё — жывых ахвяра
Вяртацца ў кроўны радавод.
І для мяне не кара — мара
Маіх, адданых Богу год.

У нябыт імчаць гады-імгненні,
Да тых, жыць без каго ўсё горш.
І тут мяне ўсе меней, меней,
І там мяне ўсё больш і больш.

*27.01.2020*

## Что наша жизнь?

Что наша жизнь?..
Миг — не иначе!
Проходят как-то невзначай
За годом год, а если кратче:
Два слова — здравствуй и прощай.

Что наша жизнь?
Цари и слуги,
Статисты,
Трагики,
Шуты.
И бесполезные потуги
Любой несбыточной мечты.

Что наша жизнь?
Судьба-пиранья
И нежный майский первоцвет.
Восторги, разочарованья.
Полет души и клином свет.

Что наша жизнь?
Письмо в конверте
От сына матери, что жив,
Надежды смерть, любви бессмертье,
Порыв сердец, сердец разрыв.

Что наша жизнь?
Злодей и гений
В одном лице и многолик.
Не перечесть перечислений —
Мал и велик сей золотник.

Что наша жизнь?
В событий гуще
Отчаянная толчея…
Но ничего пока нет лучше,
Чем наша жизнь —
Уверен я.

## Туман

Я вошел в туман и скрылась
В седине его моя.
Невесомо белокрылость
Опустилась на поля.

Удивительно и странно
Раствориться невзначай
В плотном молоке тумана,
Словно тихое «прощай».

И, как царь морской, из пены
Вынырнуть над пеленой.
Дивный, необыкновенный,
Встал рассвет передо мной.

И туман под властным светом
Растворился и исчез.
Ах, как много в мире этом
Удивительных чудес!

## Момент истины

Я встал — проклятье омуту,
А ты лежи, лежи.
Я встал проветрить комнату
От обоюдной лжи.

Признанья никудышные
Расхолодили нас.
Да, дым — явленье лишнее,
Когда огонь угас.

Я встал, хватило мужества
Призвать на помощь стыд.
Чувств мало для супружества,
В которых ложь сквозит.

Взаимно мы причислили
Себя к чужим теперь.
За мной, моментом истины,
Закрылась глухо дверь.

## Хвала Творцу за это

Рожденный жить — живи!
Хвала Творцу за это!
Рожденный для добра —
Ты не обитель зла.
Начала добрых дел,
Не сгиньте в конце света,
Иначе как понять,
За что Творцу хвала.

Но кто же?
Кто тогда
Диктует летописцам,
Страницы зла, добра,
Им пронумеровав?
Луч света потеряв,
Где истину отыщем?
А без нее не внять,
Кто прав, а кто не прав.

О человек!
Претят ему нравоученья,
Пускай бы он к душе
Прислушался хоть раз.
Распятие Христа
И чудо-воскрешенье
Не ввергли нас в добро,
Не просветили нас.

Он по́дал нам пример,
А мы ему не вняли,
Он за других страдал,
А мы другим — во зло.
Не потому ль сейчас
Весь род людской в опале?
И слепнет мир —
Грехом его заволокло.

Рожденный жить — живи!
Пока еще не поздно,
Не сгинь же, род людской,
Чтоб начинать с нуля.
Во всей вселенной их,
Не счесть галактик звездных,
Но уникальней всех,
Пока еще Земля.

## Хотения

Как мне хочется,
О как мне хочется
Дурь не выбрасывать из головы.
Чтобы не звали меня по отчеству,
Чтобы мне «тыкали», отбросив «вы».

Как мне хочется,
Чтоб те ли эти ли,
Прочли скабрёзные мои стихи.
Чтобы девчата во мне заметили
Не добродетели, а лишь грехи.

О как мне хочется,
Чтоб вместо тления,
Я в эротическом горел огне.
И если сбудутся мои хотения,
Вернуться в молодость удастся мне.

## Свет и мрак

Две ядовитые сестры
Способны жалить, ранить, жечь.
Всегда вы на язык остры,
Как обоюдоострый меч.

Вам не перечь, не прекословь,
Вам, ревность и измена, но
Всегда сильнее вас любовь,
С ней справиться вам не дано.

Непобедимою живи,
Любовь в веках! Да будет так!
Свет в каждом сердце от любви,
От ревности с изменой — мрак.

Легко слагать любви дары
Из светлых, поэтичных слов.
Но две известные сестры
Готовы подстеречь любовь.

Лелея о любви мечту,
Мы, к сожаленью, знаем дни,
Сверкающие на свету
И прозябавшие в тени.

## Есть он один

*Валентину Елизарьеву*

Летать над сценой, не имея крыльев —
Мистическое таинство балета,
Соединяя в танце сказку с былью,
Как это сложно, как прекрасно это!

И восхищает мысль — как это можно
Жить в танце глубоко психологично,
Парить, вращаться, прыгать грациозно,
Заполнить сцену жизнью феерично!

Что ж, вот ответ на все вопросы эти,
Достойные, бесспорно, восхищений:
Есть он один — один за всё в ответе,
Он — мастер, вдохновитель, в чём-то гений.

Да, мастер-постановщик он бесценный,
Его талант — его же уникальность.
Да, это он открыл полет над сценой,
Души полет — не мистика, реальность.

Предвидя в танце каждое движенье,
Он весь балет осмысливает в целом.
Без крыльев не бывает вдохновенья —
Он ярко подтверждает это делом.

## Звуки музыки

Пускай я простого, крестьянского роду и племени,
Возможно, что я изъясняюсь
Не очень умно́,
Но мне звуки музыки кажутся
Звуками чуткого времени.
Постигнуть которые сердцем
Не многим дано.

В них бури жестокие воют,
В них теплые ветры весенние,
В них волны сердитые
И нежная песня ручья.
В них слышится гром
И влюбленное сердцебиение,
В них плач журавлиный летит
От гнездовий в чужие края.

О мир нашей жизни
И времени ход удивительный,
Здесь всё так созвучно друг другу —
И радость, и грусть.
Я в этом созвучии — звук
Еле слышный и малозначительный,
И всё ж быть частицею жизни
Премного горжусь.

## Восход – закат

Громада жизни грузно накатилась
Всей тяжестью своею на меня.
И старость перед ней, как Божья милость,
Как милостыня гаснущего дня.

Вцепился в тёмный лес закат багровый,
В уснувших окнах отблеском горя.
Я спать не стану, ожидая новый
Рассвет и день — вот только бы не зря.

Несбыточного ждать порою тошно,
А сбыточное — хуже во сто крат.
Я буду на восток смотреть всенощно,
Ну а пока глазею на закат.

# Такой вот стих

Я рос в стране серпа и молота,
А не в чужой мне загранице,
Где небо готикой исколото,
Где виски, бюргеры и пиццы.

Где города подобны улею,
Что ни душа, то клином свет,
Где сало не едят с цибулею,[1]
Затирки и в помине нет.

Где в мозг вживляют электронику,
Но память всё ж их коротка,
Где не танцуют под гармонику
Ни полечку, ни гопака.

Где солнца нет, лишь тень Америки —
Диктат и окрики грубы́,
Где бьются с долларами еврики,
А у людей трещат чубы…

Патриотизм — дороже золота,
У нас, он свой, другой — у них.
Я рос в стране серпа и молота,
Отсюда и такой вот стих.

---

[1] Цибуля — лук.

## Перевалочный пункт

Смирись иль устраивай бунт,
Хоть волком вой, сетуй не сетуй,
А жизнь — перевалочный пункт —
Мы есть, а иных уже нету.

И хоть нескончаем уход,
Земля наша не обезлюдит.
Так было, так будет вперед,
Другие придут, нас не будет.

Верь в наше бессмертье, не верь,
Живи в бесконечности мнимой,
А жизнь — беспрерывный конвейер,
Безжалостный, неумолимый.

Молитвы — наш призрачный шанс,
Туманней они год от года.
Мы все — чьей-то воли пасьянс,
Мы — карт бескозырных колода.

## Мгновенья и года

А годы, как мгновенья,
Мгновенья, как года.
Они, на удивленье,
Похожи иногда.

Где чувства верховодят,
Где торжество любви,
Мгновеньем год проходит,
Был — и его лови!

Кому-то пред расстрелом
Иным казался срок —
Мгновенье годом целым,
Пока нажмут курок.

Но все, без исключенья,
В последний час вздохнут:
«Эх, жизнь — одно мгновенье,
Среди веков-минут…»

## Дождь

Льёт дождь земле за ворот,
Гремит то тут, то там.
И молнией распорот
Край неба пополам.

Невидим взору болей
Размытый горизонт.
А клён в открытом поле,
Словно дырявый зонт.

Я прочь иду от клёна
И ускоряю шаг
Туда, где чай с лимоном,
Тепло, уют, очаг.

## Благозвучья тишины

Неба свод сродни обители,
В коей хороводят сны.
Так приятны и целительны
Благозвучья тишины.

Дружно, после знойнойленности,
Пробудился звон цикад.
Луч последний на окрестности
Бросил свой прощальный взгляд.

Воздух, тишиной пропитанный,
К ночи льнёт, как тайный жест.
И над церковью молитвенной
Вспыхнул догорая крест.

## Взаимность

Писать стихи я поздно стал, тогда,
Когда другие притупили перья,
Когда у них из строк текла вода…
Мне Муза, как жена, хоть стар теперь я.

Она — со мною ночи напролёт,
Похоже, что и ей со мною сладко.
Я потерял её визитам счет,
Я отдаюсь ей весь и без остатка.

И нет греха, что с нею мы близки,
Взаимно друг за друга мы стеной.
Внебрачной нету ни одной строки
В моих произведеньях.
Ни одной!

## Эпоха самопожиранья

Хоть время в пыль стирает горы
И океаны сушит, но
Любовь, вражду, раздоры, споры,
Ему осилить не дано.

Природой созданное — тленно,
Но царь природы, человек,
Плоди́т упорно, неизменно,
Добро и зло из века в век.

«Творенья» смешивая эти,
Ориентиры смещены.
И зла всё больше, больше в свете,
Знать мы добрее стать должны.

Но где там! Наши все старанья
Обращены упорно вспять.
Эпоха самопожиранья,
Увы, нам мачеха, не мать.

Путь человечества недолог,
Каких-то миллиарды лет.
Похоже, мы и есть тот молох,
На быть или не быть, ответ.

## Как девка на ложе

Жизнь человечества, вселенной,—
Бессмертная величина.
В Ней человек обыкновенный
И жизнь его — едва видна.

Мы — Жизни маленькие звенья,
Мы — слишком мало значим в Ней.
И я, увы, не исключенье,
Я, с жизнью крохотной своей.

Мы — Жизни неродные дети,
В Ней, в Жизни, слишком много нас.
Умри я завтра — кто заметит?
Или кого-нибудь из вас?

Ученому или пройдохе
Один отрезок жизни — миг.
Достаточно ль мы ценим «кроху»
В ряду загулов, дел, интриг?

Использовал я жизнь. И что же?
Какая этому цена?
Она, как девка мной на ложе,
Измята и измождена.

Она состарилась со мною,
На ней загульных лет печать.
Я обижал ее порою,
Как сын неблагодарный мать.

Как свёкор злой свою невестку,
По мелочам ее кляня.
Возможно, что и жизнь в отместку
Нередко ранила меня.

Возможно, что она бесплодит
Усилия последних лет
И медленно меня уводит
Туда, где жизни больше нет.

Неблагодарный и бедовый,
Я, прежде, чем совсем уйти,
Скажу с поклоном ей два слова,
Лишь два: — «Спасибо» и «прости».

## Проблемы и муки

Всегда, не пребывали б где́ мы,
Чтоб не свершали — в срок, ни в срок,
Проблемы и опять проблемы,
Вставали жизни поперёк.

Когда же опускались руки,
Проблемы множились, росли,
Решали их, идя сквозь муки,
Как через штормы корабли.

На драму жизни глянув шире,
Спокойно понимать должны:
Мы рождены в проблемном мире,
К тому же, в муках рождены.

## Ночь

День, кувыркнувшись весело,
Умолк, сошел на нет.
Ночь над землёй развесила
Свой златозвёздный плед.

Луна тайком скрывается
За лесом и — ни зги.
Но слышу, приближаются
Ко мне твои шаги.

Я здесь — пришел заранее,
А в сердце жар, то лёд.
И вдруг твоё дыхание
Мне обжигает рот.

И вот он, миг открытия,
В таинственной ночи.
Пытаюсь объясниться я,
Ты шепчешь мне: — Молчи!

А ночь такая звёздная!
И, видно, потому,
Что для влюблённых создана,
Слова здесь ни к чему.

## Извечно

Писал, творил, отмечен Богом,
О, многих он опередил.
И не по нраву был тем многим
За то, что выше их и… жив.

Словно безжалостные рифы,
Они, что на плаву, всё губят.
Они, как падальщики-грифы,
Извечно только мертвых любят.

## Я принял жизнь, увы

Когда б я не вкусил
Запретный плод стихов,
Когда б не принимал
Любви запретной яда,
Когда бы не́ был я
Носителем грехов,
Тогда и жизнь безвкусная не надо.

Когда бы верен был
Лишь истине господ,
Когда б не презирал
Льстецов ничтожных лица,
Когда бы был рабом
Меняющихся мод,
Тогда, пожалуй, лучше б не родиться.

Живу среди льстецов —
И все-таки рожден,
Внимаю от господ
Нередко ахинею,
Взираю, как ведут
Безвкусицу на трон —
Я принял жизнь такой, увы, я с нею.

## Попался!

То, что под этим черным платьем
Сокрытый белый мрамор тела,
Кричали белые запястья
Выглядывающие смело.

Безпроигрышность лотереи
Пророчил этот вечер синий
И белизна лебяжьей шеи,
И талия из тонких линий.

Во мне стучало сердце звонко,
Когда я видеть мог воочью,
Как сказочная незнакомка
Шла на свиданье с черной ночью.

Я понимал — еще немного,
И черное расстает в черном.
Уж коль свела судьбы дорога,
Я должен быть, по воле Бога,
Сегодня смелым и проворным.

Я догоню! Я молвлю слово!
О как зажечь ее мне надо!..
Край неба догорал багрово
Огнем негаснущего ада.

О, знать бы, что такое счастье!
Затишье? Молнии и громы?
Я был в угаре пылкой страсти,
Неудержимостью влекомый.

